Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!



Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР



25 СЬНЕЖНЯ 1926 г.
№ 16 (25)

2-гі год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1926 г.



Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.

25 СЬНЕЖНЯ 1926 г.

№ 16 (25)



2-гі год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1926 г.





# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.

Стар.

## Частка неофіцыйная.



---

## Друкарскія памылкі.

У Бюлетэні № 14 (23) г. г. у інструкцыі „Аб эксплёатацыі лясоў, якія знаходзяцца ў гарадзкой мяжы“ надрукавана:

1) на стар. 3, п. 2 „г“: „. . . дзеля чаго ў двухтыднёвы тэрмін патрэбна зрабіць лесаўпарадкаваньне . . .“; трэба чытаць: „. . . дзеля чаго ў двухгадовы тэрмін патрэбна зрабіць лесаўпарадкаваньне . . .“.

---

## 1. Абежнік Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР

### АБ ПАРАДКУ І ТЭРМІНАХ ПАДАЧЫ СПРАВАЗДАЧНАСЬЦІ ПА ПЕРАДВЫБАРЧАЙ І ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІЯХ ПА ВЫБАРАХ У САВЕТЫ.

*Усім Акруговым Выканаўчым Камітэтам БССР.*

Для папярэджаньня пяяснасьцяй, якія могуць узьнікнуць на мясцох пры запаўненьні ўстаноўленых форм вучоту па выбарчай кампаніі, а таксама для ўстанаўленьня агульнага парадку і часу прадстаўленьня справаздач па выбарах, Сэкратарыят ЦВК лічыць неабходным даць мясцом наступныя зазначэньні, як тэхнічнага, гэтак і агульнакіраўнічага характару.

### І. Парадак запаўненьня форм і блянкаў №№ 1—11 уключна.

Формы №№ 1 і 2. Сьпіскі выбаршчыкаў складаюцца і вядуцца сельскімі, местачковымі і гарадзкімі саветамі. Сельскія саветы сьпіскі выбаршчыкаў складаюць па залюдненых пунктах, даючы агульную нумарацыю выбаршчыкам па ўсім сельсавеце. Гарадзкія і местачковыя саветы сьпіскі на выбаршчыкаў членаў прафсаюзаў складаюць па ўстановах і прадпрыемствах, трымаючыся вытворчага прынцыпу і дапасоўваючыся, па магчымасьці, да тэрытарыяльнага разьмяшчэньня ўстаноў і прадпрыемстваў, а на ўтрыманцаў рабочых і служачых—па прафсаюзных аб'яднаньнях; сьпіскі на арганізаваных саматужнікаў—па саюзах саматужнікаў, а на неарганізаванае насяленьне—па тэрытарыяльных вучастках (вуліца, раён гораду, або мястэчка і г. д.), даючы агульную нумарацыю выбаршчыкаў па гораду, або мястэчку. Для ўстанаўленьня нумарацыі выбаршчыкаў па саветах неабходна, каб сьпісы выбаршчыкаў, якія складаюцца па пасялішчах, прадпрыемствах, установах, вуліцах і г. д., не нумараваліся. Агульная нумарацыя павінна давацца ў адпаведным савеце па паступленьні складзеных сьпісаў.

Для больш выгаднага карыстаньня спісамі на выбарчых сходах, гэткія не павінны сшывацца ў агульны сшытак.

Выбаршчыкі, не запісаныя па якой-небудзь прычыне ў сьпіс, могуць быць запісаны ў апошні ў чарговым парадку нумароў пасьля яго аканчальнага састаўленьня. Пры гэтым трэба рабіць адзнакі ў сьпісах адпаведных залюдненых пунктаў, прадпрыемстваў і г. д. аб тым, што па такіх-та нумарох запісаны дадаткова такія-та выбаршчыкі, запрашальныя позвы выбаршчыкаў павінны мець тыя нумары, пад якімі запісаны выбаршчыкі ў сьпісах (форма № 5).

Выбаршчыкі, зьявіўшыся на выбарчы сход, прад'яўляюць запрашальныя позвы для адзнакі ў сьпісах выбаршчыкаў аб яўцы іх на выбары, трымаючы іх (позвы) пры сабе ўвесь час выбарчага сходу.

Формы №№ 3 і 4. У графах 4-х гэтых форм трэба точна зазначаць, да якой групы пазбаўленых права належыць даны грамадзянін, дапасоўваючыся да тых дзяленьняў, якія зроблены ў дачыненьні гэтага ў статыстычных табліцах №№ 16 і 17, каб гэтым самым даць магчымасьць правільна запоўніць патрэбныя графы апошніх.

Сьпіскі па форме № 4 прызначаюцца для апублікаваньня шляхам вывешваньня на відных мясцох.

Апрача гэтага, асобам, якія пазбаўлены выбарчага права, пасылаюцца пэрсанальныя паведамленьні аб пазбаўленьні іх гэткага з зазначэньнем пары і парадку абскарджаньня.

Гэтыя сьпісы складаюцца на роднай мове выбаршчыкаў.

Для таго, што выбары сельсаветаў пачынаюцца 1-га студзеня, трэба зьвярнуць асаблівую увагу на сваячаснае састаўленьне сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права.

Форма №№ 6 і 11. На блянках па гэтых формах павінны пісацца пратаколы асобных выбарчых сходаў у сёлах, мястэчках (форма № 6) і гарадох (форма № 11).

Апрача пералічаных у блянку пытаньняў у парадак дня выбарчага сходу павінна быць унесена яшчэ пытаньне аб прыняцьці наказу выбраным у савет дэпутатам.

Форма № 8 прызначана для пратаколаў раённых зьездаў саветаў, якія пішуцца ў трох экзэмплярах, з якіх адзін пасылаецца ў Акрвыканком, адзін Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК'а, а трэці застаецца ў справах Райвыканкому.

У пратаколе райзьезду па форме № 8 не павінны запісвацца іншыя пытаньні, апрача прадугледжаных гэтай формай. Іншыя пытаньні, якія могуць разглядацца на райзьезьдзе, як напрыклад, справаздачы райвыканкому і іншых установаў і г. д. павінны запісвацца ў другі пратакол.

Формы № 7, 9 і 10. На гэтых формах пішуцца пратаколы арганізацыйных пасяджэньняў сельскіх, местачковых і гарадзкіх саветаў і райвыканкомаў. Пытаньні, дадаткова разгледжаныя на арганізацыйным пасяджэньні (апрача прадугледжаных гэтымі формамі) запісваюцца ў другі пратакол.

Пратакол арганізацыйнага пасяджэньня сельскага і местачковага савету (форма № 7) пішацца ў двох экзэмплярах, з якіх адзін для райвыканкому (адсылаецца неадкладна), а другі застаецца ў сельсавеце.

Пратакол арганізацыйнага пасяджэньня гарсавету таксама пішацца ў двох экзэмплярах: адзін для райвыканкому, або для акрвыканкому (калі акруговы горад), а другі застаецца ў справах гарсавету. Пры гэтым гарсаветы неакруговых гарадоў фіксіруюць выбары на райзьезд, а акружных гарадоў—на акруговы зьезд саветаў.

Пратакол арганізацыйнага пасяджэньня райвыканкому складаецца ў трох экзэмплярах: адзін—для райвыканкому, другі—для акрвыканкому, трэці—для Арганізацыйнага Аддзелу ЦВК'а.

Па пункту першым пратаколаў гэтых формаў прадугледжаны справаздачы сельскіх, местачковых, гарадзкіх і раённых выбарчых камісій.

У даным выпадку маецца на ўвазе, што нанова выбраныя саветы або райвыканкомы на першым сваім пасяджэньні заслухоўваюць справаздачы выбарчых камісій аб выніках праведзенай выбарчай кампаніі па савету або раёну: аб рабоце камісій у час кампаніі, аб ліку выбаршчыкаў і пазбаўленых выбарчага права, аб складзе нова-выбраных саветаў (калі гэта справаздача раённай выбарчай камісіі), аб агульнай ацэнцы праведзенай кампаніі, аб правільнасьці правядзеньня выбараў на мясцох і аб выніках выбарчай кампаніі. Савет або райвыканком у сваей пастанове па гэтым пытаньні дае ацэнку работы камісіі і зацьвярджае справаздачу.

## II. Тэхнічны парадак, схэма і тэрміны прадстаўленьня імянных позваў і статыстычных зводак (формы №№ 12—18).

### 1. Сельскія і местачковыя саветы.

а) У пяцідзённы тэрмін пасьля пачатку выбараў прадстаўляюць райвыканкому агульныя апісальныя справаздачы аб правядзеньні і выніках перадвыбарна-справаздачнай кампаніі ў парадку схемы інфармацыйнай справаздачы.

б) На наступны дзень па сканчэньні выбараў па ўсім савеце ў тэрміновым парадку паведамляюць райвыканкому наступныя зьвесткі аб выбарах у савет (у абсалютных лічбах):

усяго выбаршчыкаў „..........“
з іх жанчын „..........“
усяго зьявілася на выбары „..........“
з іх жанчын „..........“
выбрана ў савет „..........“
з іх камуністых „..........“
камсамольцаў „..........“
жанчын „..........“

в) У трохдзённы тэрмін пасьля арганізацыйнага пасяджэньня Савету пасылаюць райвыканкому адзін экзэмпляр імяннога сьпісу па форме № 12 на членаў і кандыдатаў Савету, рэвізійнай камісіі пры ім, а таксама на дэпутатаў на раённы зьезд Саветаў; другі экзэмпляр сьпісу застаецца ў савеце для запісаньня даных у зводку № 17 у часьціне, якая тычыцца сельскага або местачковага савету.

г) У пяцідзённы тэрмін прадстаўляюць райвыканкому статыстычныя зьвесткі па форме № 17. Пры гэтым сельскі або местачковы савет запаўняе: пад загалоўкам „выбары ў сельскіх мясцовасьцях“ пункты 1—6 ўключна; табліца аб выбаршчыках і ўдзелу насяленьня ў выбарах запаўняецца цалкам на падставе даных, якія ёсьць у выбарчых сьпісах асоб пазбаўленых выбарчага права, а таксама па даных аб яўцы выбаршчыкаў на выбары (адзнакі ў выбарчых сьпісах аб яўцы, аддадзеныя выбаршчыкамі запрашальныя позвы). У табліцы аб складзе савету і рэвізійнай камісіі запаўняюцца таксама усе 35 граф у часьціне, якая тычыцца савету (чарговыя №№ 1—4 уключна), на грунце даных імяннога сьпісу па форме № 12 на членаў савету і рэвізійнай камісіі.

д) У гэты-ж тэрмін (пяцідзённы пасьля скончэньня выбараў) сельскія і местачковыя саветы прадстаўляюць райвыканкому, разам са зводкай па форме № 17, агульныя апісальныя справаздачы аб правядзеньні выбарчай кампаніі па запрапанованай Сэкратарыятам ЦВК'а БССР схэме.

### 2. Гарсаветы неакруговых гарадоў.

а) У трохдзённы тэрмін пасьля пачатку перавыбараў саветаў прадстаўляюць райвыканкому агульныя апісальныя справаздачы аб правядзеньні і выніках перадвыбарна-справаздачнай кампаніі па гораду ў парадку схэмы, запрапанаванай Сэкратарыятам ЦВК.

б) Па скончэньні выбараў ў Гарсавет паведамляюць райвыканкому, акрвыканкому і Аргаддзелу ЦВК наступныя зьвесткі аб ходзе выбараў (у абсалютных лічбах):

усяго выбаршчыкаў „..........“
з іх жанчын „..........“
зьявілася на выбары „..........“

з іх жанчын „ “
выбрана членаў Савету „..........“
з іх камуністых „..........“
камсамольцаў „..........“
жанчын „..........“

в) Пасьля правядзеньня арганізацыйнага сабраньня Гарсавету ў 2-х дзённы тэрмін пасылаюць Райвыканкому адзін экзэмпляр імяннога сьпісу па форме № 14 на членаў і кандыдатаў Гарсаветаў і па гэтай жа форме на дэлегатаў на Раённы Зьезд Саветаў; другі экзэмпляр застаецца ў Гарсавеце для запаўненьня табліцы № 16.

г) У пяцідзённы тэрмін пасылаюць Райвыканкому, Акрвыканкому і Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК табліцу па форме № 16, якая складаецца на грунце сьпісаў выбаршчыкаў і імяннога сьпісу № 14.

д) У гэты-ж тэрмін Гарсавет прадстаўляе Райвыканкому, Акрвыканкому і Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК разам са зводкай № 16 агульную апісальную справаздачу аб правядзеньні выбарчай кампаніі па гораду па схэме інфармацыйнай справаздачнасьці.

3. Раённыя Выканаўчыя Камітэты.

а) У сямідзённы тэрмін пасьля правядзеньня перадвыбарна-справаздачнай кампаніі прадстаўляюць Акрвыканкому і Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК агульную апісальную справаздачу па схэме аб правядзеньні і выніках перадвыбарна-справаздачнай кампаніі па раёну.

б) У часе выбараў Саветаў цераз кожныя тры дні паведамляюць па тэлеграфу Акрвыканкому і Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК даныя аб выбарах сельскіх і местачковых Саветаў з пачатку кампаніі па наступнай форме (у абсалютных лічбах):

выбрана Саветаў „..........“
лік выбаршчыкаў „..........“
з іх жанчын „..........“
зьявілася на выбары „..........“
з іх жанчын „..........“
выбрана ў Саветы членаў „..........“
з іх камуністых „..........“
камсамольцаў „..........“
жанчын „..........“

в) Па сканчэньні выбараў сельскіх і местачковых Саветаў у сямідзённы тэрмін прадстаўляюць Акрвыканкому і Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК адначасна статыстычную зводку па форме № 17, якая складаецца на грунце даных па сельскіх і местачковых Саветах па гэтых-жа формах.

г) У сямідзённы тэрмін пасьля сканчэньня выбараў сельскіх і местачковых Саветаў Райвыканком пасылае Акрвыканкому і Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК, разам са зводкай па форме № 17 апісальную справаздачу аб правядзеньні і выніках выбараў сельскіх і местачковых Саветаў па схэме інфармацыйнай справаздачнасьці.

д) Пасьля Райзьезду тэлеграфуе Акрвыканкому і Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК наступныя зьвесткі (у абсалютных лічбах):

выбрана членаў „..........“
з іх камуністых „..........“
камсамольцаў „..........“
жанчын „..........“

е) Пасьля двох дзён пасьля райзьезду пасылае Акрвыканкому імянны сьпіс па форме № 13 на дэлегатаў на Акруговы Зьезд Саветаў.

ж) У трохдзённы тэрмін пасьля правядзеньня Райзьезду і арганізацыйнага пасяджэньня Райвыканкому прадстаўляюць Акрвыканкому і Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК імянны сьпіс па форме № 12 на членаў і кандыдатаў Райвыканкому, яго Прэзыдуму і на членаў Рэвізійнай Камісіі, а таксама зводку па форме № 17 у часьціне, якая тычыцца Райзьезду, Райвыканкому і Раённай Рэвізійнай Камісіі і копію пратаколаў Райзьезду.

з) У трохдзённы тэрмін Райвыканком прадстаўляе (разам са зводкай па форме № 17 і імянным сьпісам № 12) Акрвыканкому і Аргаддзелу ЦВК агульную апісальную справаздачу аб Райзьезьдзе па схэме інфармацыйнай справаздачнасьці.

4. Гарсаветы акруговых гарадоў.

а) У пяцідзённы тэрмін пасьля перадвыбарнай кампаніі прадстаўляюць Акрвыканкому і Аргаддзелу ЦВК'а агульныя апісальныя справаздачы аб перадвыбарна-справаздачнай кампаніі па гораду па схэме інфармацыйнай справаздачнасьці.

б) У часе выбараў праз кожныя тры дні даюць Акрвыканкому і тэлеграфуюць Арг. Аддз. ЦВК наступаючыя зьвесткі аб выбарах:

Спачатку кампаніі праведзены выбары па „..........“ выбарчых вуч.
Усяго выбаршчыкаў „..........“
з іх жанчын „..........“
Усяго зьявілася на выбары „..........“
з іх жанчын „..........“
Усяго выбрана ў Савет „..........“
з іх камуністых „..........“
камсамольцаў „..........“
жанчын „..........“

Па гэтых зводках даюцца ітогавыя даныя спачатку кампаніі па ўсіх выбарчых вучастках, у якіх выбары ўжо праведзены.

в) У двохдзённы тэрмін пасьля арганізацыйнага пасяджэньня Гарсавету даюць Акрвыканкому сьпіс дэлегатаў на акруговы зьезд Саветаў па форме № 14.

г) У сямідзённы тэрмін пасьля сканчэньня выбараў гарсаветы прадстаўляюць Акрвыканкому і Аргаддзелу ЦВК'а: імянны сьпіс на членаў і кандыдатаў гарсавету па форме № 14, статыстычную зводку па форме № 16 і агульную апісальную справаздачу аб правядзеньні і выніках выбараў у Гарсавет па схэме інфармацыйнай справаздачнасьці.

5. Акруговыя Выканаўчыя Камітэты.

На падставе матар'ялаў, атрыманых ад Райвыканкомаў і Гарсаветаў даюць Арганізацыйнаму Аддзелу ЦВК наступныя справаздачы:

а) Агульныя апісальныя справаздачы па правядзеньню арганізацыйнай, тэхнічнай і справаздачнай кампаніі па форме інфармацыйнай справаздачнасьці: па сельскіх і местачковых саветах не пазьней 10 студзеня, па гарадзкіх саветах неакруговых гарадоў да 10 лютага і па гарсаветах акруговых гарадоў да 5 сакавіка.

б) Па сканчэньні выбараў у сельскія і местачковыя саветы складаюць агульныя апісальныя справаздачы ў парадку схэмы аб выбарах у сельскія і местачковыя саветы і статыстычныя даныя па форме № 17 і ў 10-дзённы тэрмін, але не пазьней 15-га лютага, пасылаюць іх у Арганізацыйны Аддзел ЦВК.

в) Складаюць таксама асобна апісальныя справаздачы аб правядзеньні выбараў у гарадзкія саветы неакруговых гарадоў і статыстычную зводку па форме № 16 і пасылаюць іх у Арганізацыйны Аддзел ЦВК у 7-дзённы тэрмін не пазьней 1-га сакавіка.



г) Складаюць агульныя апісальныя справаздачы аб правядзеньні райзьездаў, аб выбарах РВК, іх Прэзыдумаў і Рэвізійных Камісій і статыстычныя зводкі па форме № 17 па Райвыканкомах акругі і пасылаюць гэтыя матар'ялы ў Арганізацыйны Аддзел ЦВК ў 10-ці дзённы тэрмін, але не пазьней 20-га сакавіка.

д) Па сканчэньні выбараў ў гарсаветы акруговых гарадоў складаюць дапасавальна да ўстаноўленай схэмы агульныя апісальныя справаздачы аб выбарах у гарсаветы і статыстычныя зводкі па форме № 16 і пасылаюць іх у арганізацыйны Аддзел ЦВК ў 10-ці дзённы тэрмін, але не пазьней 10-га красавіка.

е) На наступны дзень пасьля правядзеньня акруговага зьезду (а магчыма і ў дзень зачыненьня зьезду) тэлеграфуюць у Арг. Аддзел ЦВК аб складзе выбранага Акрвыканкому (не бяручы ў разьлік кандыдатаў) па наступнай форме:

Выбрана членаў „......“, з іх: членаў КП(б)Б „......“, камсамольцаў „......“, рабочых „......“, сялян „......“, служачых „......“, жанчын „......“.

ж) У 10-ці дзённы тэрмін, але не пазьней 10-га красавіка, пасылаюць адначасова наступныя матар'ялы Арг. Аддзелу ЦВК: імянны сьпіс па форме № 15 на членаў і кандыдатаў Акруговага Выканаўчага Камітэту, статыстычную зводку па форме № 17 і агульную апісальную справаздачу дапасавальна да ўстаноўленай схэмы, аб правядзеньні і выніках выбараў у сельскія, местачковыя і гарадзкія саветы, аб правядзеньні раённых і акруговых зьездаў і аб выбарах у Раён Выкан. К-ты і Акруг. Выкан. К-ты.

У агульнай акруговай апісальнай справаздачнасьці павінны быць адбіты ўсе асноўныя моманты правядзеньня кампаніі, а таксама павінны быць зроблены агульныя вывады аб дасягненьнях і недахватах кампаніі.

## III. Агульныя ўказаньні.

1. Трэба зьвярнуць увагу на больш старанную апрацоўку ў РВК-ах і АВК-ах статыстычных матар'ялаў, якія павінны крытычна апрацоўвацца, не дапушчаючы ні ў якім разе чыста тэхнічнага падліку атрыманых данных без праверкі зводак.

2. Неабходна мець на ўвазе, што для акрвыканкомаў паказаныя вышэй тэрміны па прадстаўленьню справаздачнасьці, устаноўленыя ў адпаведнасьці з агульным каляндарным плянам правядзеньня выбарчай кампаніі па БССР, зьяўляюцца цьвёрдымі і зьвязаны з тэрмінам прадстаўленьня справаздачнасьці Саюзнаму ЦВК. Пагэтаму адступленьне ад гэтых тэрмінаў недапушчальна.

Акрвыканкомам і Райвыканкомам прапануецца, у сваю чаргу, таксама ўстанавіць гранічныя тэрміны для прадстаўленьня справаздачнасьці адпаведнымі саветамі ў Райвыканкомы і Акрвыканкомы.

3. Прымеце тэрміновыя меры да дачы ўказаньняў мясцом і інструктаваньня мясцовых работнікаў аб парадку і тэхніцы правядзеньня вучоту і статыстыкі.

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч.**

За Загадчыка Арганізацыйнага
Аддзелу ЦВК БССР **А. Корф.**

13 сьнежня 1926 г.
№ 342.849. 2/41.
г. Менск.

## 2. Правілы вядзеньня гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня, перайшоўшых у веданьне савецкіх гаспадарак.

1. Для задавальненьня гаспадарчае патрэбы савецкіх гаспадарак у драўніне—апошнім выдзяляюцца ў бестэрміновае карыстаньне са складу лясоў мясцовага значэньня невялікія лясныя дачы, якія знаходзяцца на тэрыторыіі гэтых савецкіх гаспадарак, ці мяжуюцца з імі.

Незалежна ад гэтага перадача савецкім гаспадаркам лясоў мясцовага значэньня праводзіцца ў мэтах: а) зьнішчэньня цераспалосіцы ўладаньняў, якая шкодна адбіваецца на вядзеньні, як сельскае, так і леснае гаспадаркі і б) прыцягваньня савецкіх гаспадарак да справы вядзеньня леснае гаспадаркі.

2. Для захаваньня перадаваемых савецкім гаспадаркам лясных дач, для забесьпячэньня сталага карыстаньня імі і для палепшаньня стану гэтых лясоў гаспадарка ў іх павінна быць арганізавана паводле плянаў лесаўпарадкаваньня не пазьней 3-х гадовага тэрміну.

3. Савецкія гаспадаркі маюць права распачынаць карыстаньне леснымі дачамі толькі пасьля заключэньня дагавору і прыёму ад лясьнічага вучасткаў, зацьверджаных да перадачы савецкім гаспадаркам.

4. Да ўпарадкаваньня дач разьмер карыстаньня растучым лесам дазваляецца на наступных падставах:

а) пры роўнамерным разьмеркаваньні ўсіх груп насаджэньняў па ўзростах (сьпелых, дасьпяваючых і маладнякоў), пры пераважаньні сьпелых і дасьпеваючых насаджэньняў—гадавая лесасека (нармальная) устанаўляецца падзелам плошчы, пакрытай лесам, для іглястых і цьвёрдых лісьцяных насаджэньняў на зварот вырубу—75 і для іншых лісьцяных насаджэньняў—на 45.

*Увага.* Зваротам вырубу лічыцца такі ўзрост лесу, пры якім дрэвы дасягаюць неабходных для гаспадарчых патрэб памераў.

б) Пры пераважаньні маладнякоў—гадавая лесасека (па ўзросту) устанаўляецца падзелам плошчы сьпелых насаджэньняў на лік гадоў у апошняй групе ўзросту, ці для іглястых на 25 і лісьцяных на 15.

*Увага.* Пад сьпелымі насаджэньнямі трэба разумець насаджэньні іглястых і цьвёрдых лісьцяных парод, маючыя больш 50 гадоў і іншых лісьцяных парод больш 30 гадоў.

в) Калі ў вучастках няма насаджэньняў іглястых і цьвёрдых лісьцяных, маючых больш 50 гадоў, а іншых лісьцяных—больш 30 гадоў, высечка растучага лесу не дазваляецца.

*Увага.* У парадку догляду за лесам у маладняках дазваляецца высечка паасобных дрэваў па паказаньню тэхнічнага пэрсаналю лясьніцтваў.

г) Высечка растучага лесу дазваляецца суцэльнымі лесасекамі шырынёй ў іглястых насаджэньнях ня больш 60 мэтраў (28 саж.), пакідаючы па 30 штук насеньнікаў хвоі на дзесяціну, і ў лісьцяных —ня больш 100 мэтраў (47 саж.). Лесасекі адводзяцца ў натуры прасечкаю лініі і адмяжоўваюцца пастаноўкай слупоў; адвод лесасек робіцца савецкімі гаспадаркамі пад кіраваньнем прадстаўніка лясьніцтва.

д) У аднаўзростных сьпелых насаджэньнях плошчай да 10 дзесяцін і ў рознаўзростных насаджэньнях—да 20 дзесяцін—дазваляецца выбарачная высечка дрэў, грубінёй больш 18 сантымэтраў (4 вяршкі) на вышыні грудзей.

Разьмер гэтае высечкі для гадовага водпуску вызначаецца лікам пнёў, атрымоўваемым падзелам усяго ліку дрэў на вучастку, грубейшых за 4 вершкі, на 40 для іглыстых (хвоі і ёлкі) і на 20— для лісьцяных, пры гэтым дазваляецца ў адзін год высечка трохгадовае нормы з забаронаю высечкі ў другія два гады. Сячы трэба роўнамерна па ўсёй плошчы дзеля таго, каб не рабіць прагалін.

*Увага.* Пад рознаўзростнымі насаджэньнямі, памянёнымі ў гэтым пункце, трэба разумець насаджэньні, у якіх маюцца як іглыстыя дрэвы старэй 50 гадоў і лісьцяныя старэй 30-ці гадоў, так і дрэвы маладзейшыя паказаных узростаў.

е) У выпадку стыхійных няшчасьцяў у савецкай гаспадарцы (пажараў і інш.) з дазволу лясных органаў робіцца адначасовая высечка лесасек за некалькі гадоў уперад, але ня звыш пяцігадовае нормы (лічачы і чарговую лесасеку), калі гэтая высечка будзе прызнана неабходнай, пры гэтым на адпаведны лік гадоў высечка павінна быць спынена.

5. Прыбіраньне мёртвага лесу і павалу можа рабіцца неабмежавана ў працягу ўсяго году.

6. Высечка растучага лесу дазваляецца толькі ў пэрыяд ад 1-га верасьня да 1-га мая.

7. Упарадкаваньне лясоў, перададзеных савецкім гаспадаркам, робіцца паводле інструкцыі, выданай для лясоў мясцовага значэньня.

8. Па зацьверджаньні складзенага на лясныя вучасткі пляну гаспадаркі,—карыстаньне ў іх праводзіцца паводле пляну.

9. Драўніна, атрымоўваемая савецкімі гаспадаркамі для задавальненьня ўласных патрэб з перададзеных ім лясных дач, за выключэньнем драўніны, атрымоўваемай у парадку догляду за лесам, аплачваецца па таксах, выпрацаваных Народным Камісарыятам Земляробства і зацьверджаных Эканамічнай Нарадай БССР ў адпаведнасьці да такс на драўніну ў бліжэйшых да савецкіх гаспадарак лясных дачах дзяржаўнага значэньня.

Належачая за драўніну плата ўносіцца савецкімі гаспадаркамі ў тым-жа годзе ў Народны Камісарыят Грашовых Спраў у прыбытак Дзяржавы.

10. Карыстаньне драўнінай з адведзеных савецкім гаспадаркам дач не пазбаўляе іх права атрыманьня лесаматар'ялаў шляхам закупкі ў лясьніцтвах на агульных падставах, у мэтах задаваленьня будаўнічых і апалавых патрэб савецкіх гаспадарак і давядзеньня тэхнічных прадпрыемстваў да поўнае нагрузкі.

11. Продаж савецкімі гаспадаркамі драўніны з перададзеных ім дач і водпуск яе на старану не дазваляецца.

12. Пасьба жывёлы на высечаных мясцох і на маладняках, якія ніжэй 3-х арш., забараняецца. У мэтах захаваньня памянёных высечаных месц і маладнякоў ад патравы апошнія павінны быць савецкай гаспадаркай абгароджаны жэрдзянай загарадзьдзю.

13. Незалясіўшыеся шляхам натуральнага лесаўзнаўленьня плошчы павінны быць залесены савецкімі гаспадаркамі пасевам альбо пасадкай.

14. Выкарыстоўваньне высечаных плошчаў пад сельска-гаспадарчае карыстаньне не дазваляецца.

15. Арганізацыя кіраваньня і аховы лясоў у савецкіх гаспадарках павінна быць пабудавана па тыпу аховы лясных масываў Кіраўніцтва Лясамі Народнага Камісарыяту Земляробства. Усе асноўныя пытаньні правядзеньні гаспадаркі ў лясох вырашаюцца самімі савецкімі гаспадаркамі.

16. Кантроль і нагляданьне за выкананьнем савецкімі гаспадаркамі дагавораў, правіл і плянаў лясное гаспадаркі—ускладаецца на Белсельтрэст і на Кіраўніцтва Лясамі Народнага Камісарыяту Земляробства, у асобе Лясьнічых, у раёне якіх знаходзяцца перададзеныя савецкім гаспадаркам лясныя вучасткі.

17. Усе карыстаньні ў лясох савецкіх гаспадарак, як каштарысныя, так і прамежныя, павінны мець адпаведны падлік, згодна асобнай інструкцыі, выдаваемай Белсельтрэстам па ўзгадненьні з Кіраўніцтвам Лясамі Народнага Камісарыяту Земляробства.

18. Савецкія гаспадаркі, якім перададзены лясныя вучасткі, павінны мець асобныя клейма для кляйменьня лесу з абавязковай рэгістрацыяй іх у адпаведных лясьніцтвах. На клеймах павінны быць літары: „ЛБСТ“, пры гэтым літара „Л“ (лес) павінна быць зьверху, а літары „БСТ“ (Бэлсэльтрэст)—ніжэй.

19. Савецкія гаспадаркі павінны прымаць усе меры да аховы перададзеных ім лясных вучасткаў ад пажараў, самапраўных высечак і іншых пашкоджэньняў. На вінаватых павінны складацца пратаколы, якія накіроўваюцца парадкам, прадугледжаным Палажэньнем аб лясох мясцовага значэньня, зацьверджаным Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам БССР за 19/II 1926 году.

20. Для аховы лясоў савецкія гаспадаркі наймаюць лясных вартаўнікоў, якія затым рэгіструюцца ў лясьніцтвах і атрымоўваюць правы дзяржаўнае лясное варты.

21. Пры выяўленьні ў лясных вучастках парушэньняў пляну гаспадаркі і самапраўных высечак, на якія ня складзены пратаколы, а таксама іншых парушэньняў, зьвязаных з нядбайным кіраваньнем і нядбайнымі адносінамі савецкіх гаспадарак да аховы вучасткаў, Лясьнічымі складаюцца акты аб гэтых парушэньнях. У выпадку нязначных парушэньняў, Лясьнічы абмяжоўваецца залікам перавысечкі пры адводзе наступнай чарговай лесасекі, а таксама ўвагай, якая ўносіцца ў кнігу лясной гаспадаркі. Калі-ж будуць выяўлены значныя парушэньні,—то Лясьнічы накіроўвае справу ў Акруговы Лясны П/Аддзел, а апошні разам з сваім заключэньнем прадстаўляе яго на распараджэньне Кіраўніцтва Лясамі, якое і прымае неабходныя меры аж да адабраньня вучастку ад савецкае гаспадаркі.

22. Усе асноўныя пытаньні, зьвязаныя з вядзеньнем, кіраваньнем і аховай лясоў, перададзеных савецкім гаспадаркам, кіраўнікі савецкімі гаспадаркамі павінны ўзгадняць з Дырэкцыяй Белсельтрэсту і Акруговымі Ляснымі П/Аддзеламі.

Старшыня Эканамічнай Нарады БССР **М. Карклін**

Адказны Сэкратар **В. Крывіцкі**

14 кастрычніка 1926 г.
г. Менск.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб сувязі і ўзаемаадносінах натарыяльных кантор.

*Усім Акруговым Судом.*

У Народным Камісарыяце Юстыцыі маюцца зьвесткі, што некаторыя натарыяльныя канторы, да цяперашняга часу прадаўжаюць непасрэдна зносіцца з рознымі ўстановамі ня толькі БССР, але і СССР, тагды як, паводле абежніка Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 30 студзеня 1926 году № 14, натарыяльныя канторы па ўсіх пытаньнях,

якія тычацца дзейнасьці Натарыяту, павінны мець непасрэдныя зносіны толькі з належнымі Акруговымі Судамі і Натарыяльным П/Аддзелам НКЮ.

Гэтакія дзеяньні натарыяльных кантор нарушаюць агульны парадак сувязі і кіраваньня дзейнасьцю натарыяльных кантор.

Гэтым Народны Камісарыят Юстыцыі яшчэ раз пацьвярджае да абавязковага выкананьня абежнікавае распараджэньне Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 30 студзеня 1926 г. № 14 і растлумачвае, што такога роду нарушэньні зусім не павінны мець месца ў натарыяльных канторах.

У выпадку ў будучым такога нарушэньня натарыусы будуць прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасьці.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль**.

Член Калегіі Народнага Камісарыяту
Юстыцыі **Эднэрал**.

9 кастрычніка 1926 г.
№ 132.

---

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ДАВЕРАНАСЬЦЯХ, ЯКІЯ ВЫДАЮЦЦА ЗА ГРАНІЦАЙ ДЛЯ ДЗЕЯНЬНЯ Ў БССР БЕЗ АЗНАЧЭНЬНЯ ТЭРМІНУ ІХ ДЗЕЯНЬНЯ.

*Усім Акруговым Судом.*

Даверанасьці, якія выдаюцца за граніцай без азначэньня тэрміну іх дзеяньня, ня маюць сілы тагды, калі спыняецца дзеяньне праваадносін, якія ляглі ў іх аснову, пры гэтым, як агульнае правіла, нормы агульна-іскавой даўнасьці на гэтакія даверанасьці не пашыраюцца.

Народны Камісарыят Юстыцыі ў растлумачэньне § 79 інструкцыі за 4 студзеня 1926 г. № 3 (Бюл. СНК 1926 г. № 5) прапануе Натарыяльным канторам дадзеныя за граніцай для дзеяньня ў межах СССР даверанасьці, тэрмін дзеяньня ў якіх не азначан, лічыць сапраўднымі ва ўсіх выпадках у пэрыяд 3-х гадоў з дня выдачы.

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль.**

Член Калегіі Народнага Камісарыяту
Юстыцыі **Эднэрал**.

21 кастрычніка 1926 г.
№ 137.

---

Зацьверджан Пленумам Вярхоўнага Суду БССР 20 лістапада 1926 г. (пратакол № 26. § 3).

## 5. Абежнік Вярхоўнага Суду БССР

АБ РАЗЬВІЦЬЦІ П. „І“ АРТЫКУЛУ 171 ГРАМАДЗЯНСКАГА КОДЭКСУ.

*Усім Акруговым і Народным Судом БССР.*

На падставе п. „і“ арт. 171 Гр. Код., прынятага ЦВК і СНК БССР за 16 студзеня 1925 г., дазваляецца высяленьне жыхароў пры неабходнасьці правядзеньня капітальнага рамонту займаемых памяшканьняў.

З прагляду Вярхоўным Судом у парадку нагляду грамадзянскіх спраў аб высяленьні заўважана, што шмат паасобных домаўласьнікаў, а падчас і жылтаварыствы, робячы высяленьне, або зусім ня выконваюць рамонту, або зацягваюць яго на нявызначаны час з мэтай пазбаўленьня выселяных права, данага ім тым-жа законам, зваротнага ўправаджэньня ў памяшканьні.

На падставе гэтага Вярхоўны Суд БССР растлумачвае:

1) што пры вынясеньні рашэньняў аб высяленьні, на падставе п. „і“ арт. 171 Гр. Код., належыць вызначыць тэрмін, неабходны для таго, каб зрабіць рамонт, па сканчэньні якога павінна надысьці прадугледжанае гэтым артыкулам зваротнае ўправаджэньне, хоць-бы рамонт і ня быў праведзен, прычым тэрмін, пры адсутнасьці згоды старон, устанаўляецца па погляду суду і прытым—самы кароткі, сапраўды неабходны для тэрміновага правядзеньня рамонтных работ;

2) што пры вынясеньні гэтых рашэньняў і немагчымасьці даць па згодзе друговае часовае памяшканьне высяляемаму ў тым жа домаўладаньні неабходна асобліва старанна правяраць сапраўдную патрэбу дому ў капітальным рамонце, правядзеньне якога патрабуе абавязковага асвабаджэньня памяшканьня;

3) у выпадку, калі потым будзе вызначана, што рамонт ня быў зроблен таму, што як-бы для правядзеньня рамонту жыльлёвае таварыства, домаўласьнік або арандатар хацелі выключна толькі высяліць непажаданага ім жыхара, апошнія адказны ў парадку адпаведных артыкулаў Грамадзянскага або нават Крымінальнага Кодэксу.

Старшыня Вышэйшага Суду БССР **Варашылаў.**

24 лістапада 1926 г.
№ В. 212/ц 34.

---

Зацьверджан Пленумам Вышэйшага Суду 20 лістапада 1926 года (пр. № 26, § 4).

## 6. Абежнік Вярхоўнага Суду БССР

АБ ПАРАДКУ ПРЫЁМУ І НАКІРОЎВАНЬНЯ КАСАЦЫЙНЫХ СКАРГ ПА ГРАМАДЗЯНСКІХ СПРАВАХ.

*Усім Акруговым Судом БССР.*

З падаваемых у Вярхоўны Суд грамадзянскіх спраў з касацыйнымі скаргамі на рашэньні акруговых судоў заўважваецца адсутнасьць зьвестак аб разьмерах сысканых па справе збораў, невыкананьне некаторымі акруговымі судамі патрабаваньняў аб далучэньні

да касацыйных скарг напісаных на машынцы копій рашэньняў ці пастаноў, на якія падаюцца скаргі, а таксама адсутнасьць зьвестак аб перадачы копіі скаргі другой старане.

Прапануецца прыняць да няўхільнага выкананьня наступнае:

1. Пры атрыманьні касацыйных скарг, азначаць на іх абскарджаную суму, а пры адсылцы спраў з касацыйнымі скаргамі ў Вярхоўны Суд даваць пунктуальную праўку (разьлік) за подпісам адказнае асобы, з паказаньнем усіх падстаў сысканьня тае ці іншае сумы збораў.

2. Справы з касацыйнымі скаргамі на рашэньні суду падаваць у Вярхоўны Суд не раней, як будуць атрыманы акруговымі судамі і зроблены аб тым адпаведныя адзнакі ў справе зьвесткі аб часе перадачы копій касацыйных скарг і усіх дадаткаў да яе другой старане, а ў выпадку неперадачы іх па паказанаму ў справе адрасу падлеглай старане—адзнакі ў справе аб прычынах неперадачы.

3. Усякі раз пры падачы з скаргамі спраў далучаць ясна напісаныя на пішучай машынцы копіі рашэньняў або пастанаўленьняў, на якія паданы скаргі.

Старшыня Вярхоўнага Суду БССР **Варашылаў.**

24 лістапада 1926 г.
№ В. 278. ц. 35.

---

## 7. Абежнік Народных Камісарыятаў Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР

### АБ ПАРАДКУ СЫСКВАНЬНЯ ШТРАФАЎ ЗА БЯЗЬБІЛЕТНЫ ПРАЕЗД ПА ЧЫГУНКАХ.

*Начальнікам Акруговых Міліцый.*

Па зьвестках, маючыхся ў Управе Міліцыі Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў відаць, што ўстановы Міліцыі на мясцох, пры спагнаньні штрафаў за бязьбілетны праезд па чыгунцы, абмяжоўваюцца, у выпадках адмовы грамадзян заплаціць штраф, складаньнем пратаколаў і накіразаньнем у падлеглую Управу чыгункі.

З прычыны таго, што паводле арт. 21 Статуту чыгунак, штрафы за бязьбілетны праезд пасажыраў павінны сысквацца па актах Начальнікаў станцый у адміністрацыйным парадку, прапануецца ўстановам Міліцыі прымаць усе меры да непасрэднага спагнаньня штрафаў, кіруючыся пры гэтым інструкцыяй аб спагнаньні штрафаў, накладаемых у адміністрацыйным парадку за невыкананьне абавязковых пастаноў за 2/IX 1925 г. № 288 (Бюл. СНК 1925 г. № 5), з выключэньнем увагі да арт. 8 разьдзелу 2-га памянёнай інструкцыі, г.з., што выбар парадку прымусовага спагнаньня штрафу па арт. 8 даецца ўстановам Міліцыі.

У выпадках адсутнасьці ў парушыцеля маемасьці, на якую магло-б быць зьвернута спагнаньне на пакрыцьце сумы штрафу, і немагчымасьці гэтакім спосабам правесьці спагнаньне, установам Міліцыі належыць складаць адпаведныя пастановы аб адсутнасьці ў парушыцеляў маемасьці, і справы аб спагнаньні зварочваць тым установам НК Шляхаў Зносін, ад якіх яны былі атрыманы.

У выпадку, калі акты станцый аб бязьбілетным праезьдзе зроблены настолькі няпоўна і нявыразна, што гэта перашкаджае Міліцыі

цы адшукаць вінаватага, то органы Міліцыі зварочваюць справы па спагнаньню штрафаў у тыя аддзелы збораў чыгуначных Упраў, якімі гэтыя справы былі ўзбуджаны, кіруючыся пры гэтым абежным распараджэньнем НК Шляхаў Зносін № 876—1924 г., у якім азначана дакладнае складаньне актаў.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Нямытых.**

Нам. Начальніка Ўправы Міліцыі НКУС **Бальзоўскі.**

26-га лістапада 1926 г.
№ 316.

---

Выдана на падставе арт. 8 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 21 чэрвеня 1926 г.

## 8. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР

### АБ ПАРАДКУ ПРЫЦЯГНЕНЬНЯ СЯЛЯНСТВА І МЯСЦОВЫХ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ДА ЎДЗЕЛУ Ў СПРАВЕ ДЗЯРЖАЎНАГА СЕЛЬСКАГА АКЛАДНОГА СТРАХАВАНЬНЯ.

### I. Страхавыя ўпаўнаважаныя ў селішчах.

§ 1. Ад кожнага селішча, з лікам жыхароў ня менш як 200 чалавек, выбіраецца адзін упаўнаважаны і кандыдат да яго. Пры меншым ліку жыхароў асобныя сумежныя селішчы яднаюцца для выбараў аднаго ўпаўнаважанага і кандыдата да яго.

§ 2 Правам выбіраць і быць выбраным у якасьці ўпаўнаважаных карыстаюцца асобы, якія маюць права выбараў у Саветы.

§ 3. Сельскія страхавыя ўпаўнаважаныя выбіраюцца на той самы тэрмін, як і члены сельскіх саветаў. Выбары сельскіх страхавых упаўнаважаных адбываюцца адначасна з выбарамі сельскіх саветаў.

§ 4. Сельскія страхавыя ўпаўнаважаныя маюць заўсёды нагляд у сваім селішчы (альбо селішчах):

а) за тым, каб будынкі, сельска-гаспадарчая жывёла і пасевы, якія падлягаюць абавязковаму акладному страхаваньню, былі застрахованы своечасова і ў поўным іх складзе;

б) за правільнаю ацэнкаю будынкаў;

в) за правільным налічэньнем і зборам страхавых плацяжоў па акладному страхаваньню;

г) за правільным рахункам і сваечасовай выдачай страхавое ўзнагароды за страты ад пажараў, пошасьці сельска-гаспадарчай жывёлы і градабіцьця пасеваў;

д) за разьмеркаваньнем льгот па абавязковаму акладному страхаваньню і

е) за супроцьпажарнай аховай селішча (селішч), як-та: спраўнасьцю пажарнага абозу, дакладным утрыманьнем пячэй і камінoў, акуратнай ачысткай камінoў ад сажы, асьцярожным абхаджэньнем насяленьня з агнем, арганізаваньнем начной варты і інш.

§ 5 Для ажыцьцяўленьня паказаных у арт. 4 абавязкаў упаўнаважаныя:

а) прымаюць удзел у камісіях пры сельскіх саветах па разьмеркаваньню льгот;



б) прысутнічаюць пры правядзеньні страхавымі агэнтамі, іх памочнікамі, альбо іншымі ўпаўнаважанымі імі асобамі (ацэншчыкамі, зборшчыкамі і інш.) страхавое працы на вёсцы і

в) маюць права знаёміцца з дакумэнтамі страхавога агэнцтва па страхаваньню маемасьці і выдачы страхавое ўзнагароды.

§ 6. Пры зьдзяйсьненьні сваіх праў страхавыя ўпаўнаважаныя не павінны ўмешвацца ў працу страхавых агэнтаў і ўпаўнаважаных імі асоб, якая выпаўняецца паводле правіл, інструкцый і распараджэньняў па дзяржаўнаму страхаваньню.

Аб заўважаных непарадках у страхавой справе сельскія ўпаўнаважаныя праз упаўнаважаных пры сельскіх саветах (арт. 9 Інструкцыі) даводзяць да ведама сельскага савету і страхавога агэнта, а аб няправільных дзеяньнях страхавога агэнта паведамляюць праз Раённы Выканаўчы Камітэт Акруговае Страхавое Агэнцтва, альбо Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР у г. Менску.

§ 7. Паступаючыя ад грамадзян заявы і хадайніцтвы сельскія страхавыя ўпаўнаважаныя перадаюць упаўнаважаным пры сельскіх саветах для накіраваньня іх страхавому агэнцтву.

§ 8. Страхавыя агэнты, іх памочнікі і іншыя ўпаўнаважаныя імі асобы, пры кожным выезьдзе на вёску для ацэнкі будынкаў, рэгістраваньня сельска-гаспадарчае жывёлы, вучоту пасяўной плошчы, ліквідаваньня страт ад пажараў і градабіцьцяў, праверкі складзеных сельскімі саветамі актаў аб пошасьці жывёлы, збору акладных страхавых плацяжоў і заключэньня дадатковых страхаваньняў, павінны запрашаць страхавога ўпаўнаважанага гэтага селішча для прысутнічаньня пры выпаўненьні страхавое працы. Па патрабаваньнях страхавых упаўнаважаных працаўнікі агэнцтва павінны прад'яўляць страхавыя дакумэнты для навядзеньня патрэбных ім справак.

## II. Страхавыя ўпаўнаважаныя ў сельскіх саветах.

§ 9. Па заканчэньні выбараў сельскіх страхавых ўпаўнаважаных, на першым пленуме сельскага савету выдзяляецца адзін член савету, якому даручаецца: назіраць за працай сельскіх страхавых упаўнаважаных, кіраваць іх працай, дапамагаць ім у выпаўненьні імі сваіх абавязкаў і прымаць ад іх заявы і хадайніцтвы сялян па страхавых справах і накіроўваць іх да страхавога агэнцтва.

§ 10. Акрамя таго, упаўнаважаныя сельскіх саветаў карыстаюцца ўсімі тымі правамі, якія маюць сельскія ўпаўнаважаныя (арт. 4, 5 і 6 гэтае інструкцыі).

§ 11. Страхавыя агэнцтвы павінны падтрымліваць цесную сувязь з ўпаўнаважанымі сельскіх саветаў, трымаць іх у курсе чарговай працы, якая праводзіцца агэнцтвам на вёсцы, і інструктаваць іх, як у напрамку кіраўніцтва працай сельскіх упаўнаважаных, так і ў адносінах да парадку атрыманьня і перадачы заяў і хадайніцтваў па страхавых справах.

## III. Страхавыя Нарады пры Раённых Выканаўчых Камітэтах.

§ 12. У склад Нарады па страхавых справах пры Раённых Выканаўчых Камітэтах уваходзяць: у якасьці старшыні—старшыня або член Раённага Выканаўчага Камітэту і члены: раённы страхавы агэнт, страхавыя ўпаўнаважаныя сельскіх саветаў, загадчык раённай часьці камунальнае гаспадаркі, начальнік мясцовай пажарнай дружыны, старшыня раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаема-

дапамогі, вэтэрынарны доктар (або фэльчар) і аграном. Усе сельскія страхавыя ўпаўнаважаныя могуць прысутнічаць на паседжаньнях Нарады з правам пастаноўчага голасу.

§ 13. На Нарады ўскладаецца;

а) абгаварэньне пытаньняў па абавязковаму акладному страхаваньню, якія перадаюцца цэнтральнымі страхавымі органамі, або ўзбуджаюцца па пачыну Нарады;

б) разьмеркаваньне паміж уваходзячымі ў склад раёну сельскімі саветамі льгот, якія даюцца насяленьню паводле пляну абавязковага акладнога страхаваньня;

в) разгляд пытаньняў аб мерапрыемствах па барацьбе з пажарамі і пошасьцю жывёлы, у прыватнасьці: разьвіцьця і ўзмацаваньня пажарных арганізацый і ўтварэньня каапэрацыйных таварыстваў па агнятрываламу будаўніцтву, а таксама дапамога правядзеньню гэтых мерапрыемстваў у жыцьцё і

г) заслухоўваньне і абгаварэньне інфармацыйных справаздач і дакладаў мясцовага страхавога агэнцтва.

§ 14. Раённыя Страхавыя Нарады склікаюцца ня менш як тры разы ў год, прыблізна: у кастрычніку, сакавіку і чэрвені месяцах.

§ 15. Пытаньні на разгляд Нарады ўносяцца як страхавымі агэнтамі, так і іншымі членамі Нарады.

Пастановы Нарады з адпаведнымі матар'яламі пасылаюцца ў Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР, а копіі—у Акруговы Выканаўчы Камітэт і Акруговае Страхавое Агэнцтва.

Тэхнічная падрыхтоўка пытаньняў да разгляду Нарады, а таксама праца па выкананьню пастаноў Нарады, ускладаецца на страхавых агэнтаў.

Народны Камісар Унутраных
Спраў БССР **А. Сташэўскі**.

За Народнага Камісара
Грашовых Спраў БССР **В. Мікуліч**.

1 кастрычніка 1926 г.

---

Па ўзгадненьні з НКУС
Зацьвярджаю. 25 лістапада 1926 г.
Час. вык. абав. Нар. Кам. Фінансаў БССР Кардашэнка.

## 9. Інструкцыя Падатковага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

АБ ПАРАДКУ ПАДАНЬНЯ ГАРАДЗКІМІ ДАМОВЫМІ КІРАЎНІЦТВАМІ І ДОМАЎЛАСЬНІКАМІ ЗЬВЕСТАК АБ ГАНДЛЁВЫХ І ПРАМЫСЛОВЫХ ЗАКЛАДАХ І ПРОМЫСЛАХ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў МЕЖАХ КОЖНАГА ДОМАЎЛАДАНЬНЯ.

1. Усе гарадзкія домакіраўніцтвы і домаўласьнікі, у дамох якіх маюцца гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы, канторы і склады, а таксама вытвараюцца якія-небудзь промыслы, павінны паведамляць аб іх па дадзенай да гэтага форме адпаведнаму падатковаму інспэктару.

2. Паказаныя зьвесткі падаюцца домакіраўніцтвамі і домаўласьнікамі штогодна не пазьней 15-га кастрычніка па стану на 1-ае кастрычніка.

*Увага.* У бягучым 1926/27 годзе паказаныя ў гэтай інструкцыі зьвесткі падаюцца не пазьней 31 сьнежня.

3. Усе зьмены, якія адбыліся ў складзе знаходзячыхся ў домакіраўніцтве гандлёва-прамысловых прадпрыёмстваў і промыслаў з 1-га кастрычніка да дня падачы зьвестак, уносяцца ў паданыя зьвесткі як дадатак да зьвестак, паказаных на 1-ае кастрычніка.

4. Калі пасьля падачы зьвестак па домакіраўніцтву вынiклі якія-небудзь зьмены ў складзе гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў і промыслаў (узьнiклі новыя прадпрыемствы і промыслы, зачыніліся альбо перамясьціліся старыя прадпрыемствы), домаўласьнікі і домакіраўніцтвы павінны не пазьней тыднёвага тэрміну з дню гэтай зьмены заявіць аб гэтым падатковаму інспэктару.

Заява аб адбыўшыхся зьменах, зробленая на словах, адзначаецца інспэктарам у паданых на 1-га кастрычніка зьвестках і падпісваецца заяўнікам.

За Начальніка Падатковага
Кіраўніцтва НКФ **Рэксьцін.**

Дадатак.

# З Ь В Е С Т К І

аб гандлёва-прамысловых прадпрыемствах, канторах, складах і асабістых промыслах.

Назва гарадзкога пасялішча ..........................................

Назва вуліцы і № дому ..........................................

Назва домаўласьніка альбо домакіраўніцтва ..........................................

| №№ па парадку | №№ памяшканьняў, у якіх зьмяшчаюцца гандлёва прамысловыя прадпрыемствы, склады, канторы і промыслы | Прозьвішча, імя і імя па бацьку ўласьніка прадпрыемства альбо назва фірмы | Назва прадпрыемства альбо промыслу | Адзнакі фінансавага інспэктара аб выбраных патэнтах і аб складзеных пратаколах |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Подпіс домаўласьніка альбо домакіраўніцтва.

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Землязробства БССР

### АБ БЕЗАДКЛАДНАЙ РЭГІСТРАЦЫІ ЎМОЎ НА ЗДАЧУ ЗЯМЛІ ПЕРАСЯЛЕНЦАМІ Ў АРЭНДУ.

*Усім Акруговым Зямельным Аддзелам БССР.*

На мясцох часта бываюць выпадкі затрымліваньня афармленьня арэндных умоў на зямлю, здаваемую перасяленцамі, якія выпадкі выклікаюць несваечасовае прыбыцьце перасяленцаў вясной у раёны ўправаджэньня.

Для зьнішчэньня гэтага, катэгарычна прапануецца зрабіць па раёнах належнае распараджэньне, каб усе неабходныя фармальнасьці па рэгістрацыі Раённымі Выканаўчымі Камітэтамі арэндных умоў на здачу зямлі перасяленцам безадкладна выконваліся па прадстаўленьні належных дакумэнтаў на перасяленьне і ні ў якім разе не выклікалі-б затрымліваньня адпраўкі іх у раёны ўправаджэньня.

Народны Камісар Землязробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Начальнік Кіраўмэліазему НКЗ **А. Шычко.**

1 жніўня 1926 г.
№ 13.

---

Выдана ў разьвіцьцё артыкулаў 25 і 26 Вэтэрынарнага Статуту БССР.

## 11. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Землязробства, Аховы Здароўя і Унутраных Спраў па барацьбе з яшчурам.

§ 1. Пры зьяўленьні ў гаспадарцы яшчуру ці захварэньня падобнага па адзнаках да яшчуру, уласьнікі жывёлы ці асобы, іх заступаючыя, абавязаны безадкладна давесьці да ведама бліжэйшага органу ўлады ці вэтэрынарнага ўрача або вэтэрынарнага фэльчара аб зьявіўшымся захварэньні і да прыбыцьця іх:

а) не выпушчаць з свайго двара рагатай жывёлы, сьвіней, авечак і коз;

б) ня ўжываць у страву людзям і ў корм жывёле сырога малака і сырых малочных прадуктаў.

*Увага 1.* Адзнакамі яшчуру ў жывёлы лічацца: страта апэтыту, паражэньне ў відзе пузыроў і язваў на языку, дзяснах, на ўнутранай паверхні губ, часам таксама паміж капытоў і на вымі, богатае выліваньне з роту цягучай пеністай сьліны, пры захварэньні капытоў жывёла кульгае.

*Увага 2.* Успрыймальнаю да яшчуру жывёлаю лічыцца буйная рагатая жывёла, авечкі, козы, сьвіньні, вярблюды і паўночныя алені, яшчурам могуць хварэць і людзі, асабліва дзеці пры кармленьні іх сырым малаком ад жывёлы заражанай гаспадаркі ці стада.

§ 2. Пры выяўленьні пастухом у час пасьбы жывёлы захварэньняў падобных да яшчуру ён павінен паведаміць аб гэтым мясцовую ўладу і ўласьніка, каторы абавязан безадкладна ўзяць усю сваю жывёлу са стада ці са стад, калі жывёла пасецца ў розных стадах.

§ 3. Сельскі савет, местачковы савет і раённы выканаўчы камітэт ці міліцыя, атрымаўшы ад уласьніка жывёлы ці другім шляхам зьвесткі аб зьяўленьні яшчуру ці захварэньня, падобнага да яго, у

асобнай гаспадарцы ці стадзе, абавязаны безадкладна паведаміць аб гэтым вучастковага вэтэрынарнага ўрача ці вэтэрынарнага фэльчара і прыняць меры да таго, каб да прыбыцьця вэтэрынарнага ўрача ці вэтэрынарнага фельчара:

а) былі выканаены меры, паказаныя ў § 1 і

б) падазронае ў захварэньні яшчурам стада было поўнасьцю адлучана ад іншых стад і ня мела з імі ніякай датычнасьці.

§ 4. Атрымаўшы зьвесткі аб зьяўленьні яшчуру ці захварэньня, падобнага да яго, вэтэрынарны ўрач (вэтэрынарны фэльчар) безадкладна выяжджае на месца для ўстанаўленьня дыягназу і прыняцьця мер.

> *Увага.* Вэтэрынарны фэльчар, упэўніўшыся ў тым, што гэта яшчур, прымае папярэднія меры да нераспаўсюджваньня заразы і безадкладна паведамляе непасрэдна ці праз падлеглы орган мясцовай улады вэтэрынарнага ўрача аб зьявіўшымся захварэньні і аб прынятых мерах.

§ 5. Пры ўстанаўленьні яшчуру вэтэрынарны ўрач паведамляе мясцовай уладзе аб неабходнасьці склікаеньня вэтэрынарна-выканаўчай камісіі (§ 3 і 5 Інструкцыі аб межах веданьня і парадку дзейнасьці вэтэрынарна-выканаучай камісіі).

§ 6. Вэтэрынарна-выканаўчая камісія, а да склікаеньня яе вэтэрынарны ўрач (арт. 89 Вэтэрынарнага Статуту):

а) высьвятляе лік хворай і падзронай у захварэньні жывёлы, лік заражаных двароў, селішч, стад і вызначае тэрыторыю, небясьпечную па яшчуру;

б) высьвятляе крыніцы і шлях заносу хваробы;

в) высьвятляе магчымыя шляхі для далейшага распаўсюджваньня хваробы і

г) прымае меры да недапушчэньня распаўсюджаньня хваробы і да яе ліквідацыі, як паказана ў § 10 гэтае Інструкцыі.

§ 7. Вэтэрынарна-выканаўчая Камісія праз належныя органы мясцовай улады абвяшчае гаспадарку (двор), пункт, селішча, мясцовасьць небясьпечнаю, ці пагражаемай па яшчуру (артыкулы 92 і 93 Вэтэрынарнага Статуту), праводзіць неабходныя мерапрыемствы (Інструкцыя вэтэрынарна-выканаўчым камісіям, разьдзел V і ніжэй § 10 гэтае Інструкцыі) і назірае непасрэдна праз сваіх членаў або праз прадстаўнікоў мясцовай улады, а таксама прадстаўнікоў вэтэрынарна-санітарных апекаваньняў ці асобна ўпаўнаважаных асоб, за выкананьнем правадзімых мерапрыемстваў уласьнікамі жывёлы, пастухамі і вартаўнікамі ў карантынах і заставах.

§ 8. Аб зьяўленьні яшчуру выканаўчая камісія безадкладна даводзіць у належным парадку да ведама мясцовых органаў улады і вышэйшых інстанцый, а таксама паведамляе падлеглую ўладу суседніх пунктаў, бліжэйшых вэтэрынарных урачоў, вучасткам каторых можа пагражаць зьяўленьне яшчуру, вучастковага мэдыцынскага ўрача і раённага санітарнага ўрача.

§ 9. Вэтэрынарна-выканаўчая камісія, непасрэдна або праз сельскія і местачковыя саветы і раённыя выканаўчыя камітэты або праз вэтэрынарна-санітарныя апекаваньні і іншыя грамадзянскія арганізацыі шырока апавяшчае насельніцтва заражанага і суседніх селішч (раёнаў) аб зьяўленьні яшчуру і аб мерах барацьбы з ім і мерах папярэджваньня яго.

§ 10. Мерапрыемствы па барацьбе з яшчурам праводзяцца паводле артыкулаў 25 і 26 Вэтэрынарнага Статуту, а іменна:

А. Калі ў стадзе ці селішчы захворвае вялікі лік жывёлы і прызнаецца небясьпечным стада, селішча ці раён:

а) забарона выводу і вывазу з небясьпечнага селішча жывёлы, успрыймальнай да заражэньня яшчурам, за выключэньнем выпадкаў, прадугледжаных у § 13 гэтае інструкцыі;

б) забарона прыводу і ўвозу для сельска-гаспадарчых патрэб у небясьпечную мясьцовасьць ці селішча жывёлы, успрыймальнай да заражэньня яшчурам (гл. вышэй увагу 2-ую да § 1);

*Увага.* З дазволу падлеглае ўлады можа быць дапушчаны ўвод такой жывёлы ў небясьпечную мясьцовасць у разьніцы для безадкладнага забою пад наглядам вэтэрынарнага ўрача.

в) забарона вывазу без дазваленьня вэтэрынарнага ўрача з заражанай мясьцовасьці селішча ці пункту сырых жывёлавых прадуктаў ад жывёлы, успрыймальнай да яшчуру;

г) забарона вывазу без дазволу вэтэрынарнага ўрача з заражанага ці абвешчанага небясьпечным пункту аб'ёмістых кармоў, а таксама прадметаў, якія могуць служыць крыніцай распаўсюджаньня хваробы;

д) забарона вывазу сырога малака, а таксама, сырых малочных прадуктаў і рэшты ад пераапрацоўкі малака з мясцовасьці, небясьпечнай па яшчуру, у мясцовасьці незаражаныя (гл. ніжэй § 17). У небясьпечнай гаспадарцы ці сярод небясьпечнага раёну малако можа дапушчацца ў страву людзям і жывёле і ў пераапрацоўку, але толькі ў гатаваным ці грэтым у працягу 3 хвілін пры 80° С відзе;

е) забарона прагону праз небясьпечную мясцовасьць жывёлы, успрыймальнай да яшчуру, а таксама праезду на ёй праз небясьпечную мясцовасьць і ўстанауленьне для гэтае мэты аб'ездных шляхаў.

*Увага.* У выпадку немагчымасьці ўстанаўленьня аб'ездных шляхаў пропуск гэтакай жывёлы можа быць дазволен пры ўмове недапушчэньня прыпынку іх у заражаным пункце ці селішчы.

ж) устанаўленьне карантынаў, застаў і загарадаў для дакладнага выкананьня пунктаў „а", „б", „в", „г", „д" і „е" гэтага параграфу;

з) вывешваньне абвяшчэньняў і апавяшчэньняў аб яшчуры на відных мясцох па шляхох, праходзячых праз небясьпечныя селішчы ці пункты і на небясьпечных дварох;

і) забарона пасьбы жывёлы, успрыймальнай да яшчуру, у выпадку, калі гэтая пасьба можа дапамагаць распаўсюджаньню яшчуру на суседнія стады. Агульная пасьба ў небясьпечных пунктах дазваляецца толькі ў тых выпадках, калі ўсяму небясьпечнаму стаду зроблены пагалоўныя прышчэпкі і калі папас для яго знаходзіцца далека ад праездных шляхаў, ад папасу для жывёлы незаражаных стад і мае асобныя прагоны і вадапой;

к) забарона, да абвяшчэньня мясцовасьці свабоднай ад яшчурнай заразы, пасьбы здаровых стад і паасобных жывёлін на папасе, дзе пасьвілася жывёла, хворая яшчурам;

л) забарона ў небясьпечным раёне рынкаў, кірмашоў, выставак, аўкцыёнаў і іншых зграмаджэньняў жывёлы, успрыймальнай да яшчуру;

м) накладаньне ў выпадку патрэбы метак і асаблівых адзнак на жывёлу ў небясьпечных пунктах і мясцовасьцях;

н) забарона да абвяшчэньня мясцовасьці вызваленай ад яшчуру вывазу гною з небясьпечных двароў (§ 20 гэтае інструкцыі);

о) абявязковае правядзеньне паводле асобнага навучаньня ці паказаньняў вэтэрынарнага ўрача пагалоўных прышчэпак усяму стаду з мэтаю хутчэйшага спыненьня пошасьці і больш лёгкага перахварэньня жывёлы;

п) правядзеньне пасьля спыненьня хваробы ачысткі заражаных памяшканьняў ад гною (§ 20) і дэзынфэкцыі іх вапнаю або якімі-небудзь іншымі спосабамі, паводле асобных правіл па дэзынфэкцыі.

Б. Пры адзіночных захварэньнях у паасобных дварох, калі небясьпечным прызнаецца адзін двор ці гаспадарка:

а) прыстасоўваюцца ўсе пункты разьдзелу „А“ гэтага параграфу, апрача п. п. „і“ і „л“, а таксама ў мэтах поўнага адасабленьня (ізаляцыі) даннае гаспадаркі ад свабодных па яшчуру забараняецца:

б) выпуск з заражанага двара на свабоду ўсяе дамовае жывёлы, не ўспрыймальнае да яшчуру, але здольнае разносіць яго;

в) доступ у небясьпечную гаспадарку, двор, памяшканьне старонынім асобам;

г) даведваньне асобам, даглядаючым за хвораю жывёлаю, другіх незаражаных яшчурам двароў і памяшканьняў для здаровай жывёлы;

д) вываз і вынас з заражанага двара прадметаў догляду за жывёлай, а таксама такіх, якія былі ў заражаным памяшканьні або ў датыкальнасьці з хвораю жывёлаю ці маглі быць забруджаны заразьлівай матэрыяй.

§ 11. Забой на мяса жывёлы небясьпечнага раёну ці пункту можа быць дапушчан толькі з дазволу і пад кантролем належнага вэтэрынарнага ўрача. Забой робіцца ў разьніцы на забойным пункце ці ў спэцыяльна адведзеным і прызнаным вэтэрынарным ўрачом выгадным для забою месцы, па ўзгадненьні з раённым вэтэрынарным урачом. Галава з языком, а роўна харчавод, жывот, кішкі, канцовасьці да пуцявога суставу з пакрываючай іх скурай пры наяўнасьці паражэньняў яшчурам—могуць быць выпушчаны пасьля пагружэньня іх пад вэтэрынарным назіраньнем у вар (Правілы вэтэрынарна-санітарнага агляду забойнай жывёлы і дасьледваньня і бракоўкі мясных прадуктаў, § 13). Знаходзячыеся ў жываце і кішках рэшткі яды падлягаюць дэзынфэкцыі, паводле асобных правіл аб дэзынфэкцыі.

§ 12. Для забою жывёла небясьпечнае мясцовасьці можа выводзіцца ў разьніцы, знаходзячыеся толькі на абшары небясьпечнае па яшчуру мясцовасьці, за выключэньнем выпадкаў, зазначаных у § 13.

§ 13. У асобных выпадках вывад і вываз жывёлы, успрыймальнай да яшчуру, з небясьпечнага раёну ў свабодны ад яго (заводзкія, вопытныя і іншыя) можа вырашацца Народным Камісарыятам Земляробства.

§ 14. Асобы, даглядаючыя хворую жывёлу, а таксама праводзячыя забой жывёлы, ачыстку, уборку, перавозку прадуктаў забою, ачыстку памяшканьняў пасьля кожнае датычнасьці з хвораю жывёлаю ці заражанымі прадметамі, не павінны датыкацца да здаровае жывёлы ці ўваходзіць у памяшканьне для здаровай жывёлы раней, чым ня будзе зроблена ачыстка і абеззаражваньне адзеньня і асабліва абутку, а таксама рук і ног, калі апошнія без абутку.

§ 15. Скуры зьнятыя з паўшай ці забітай хворай яшчурам жывёлы, а таксама рогі, капыты, шчаціна і іншыя сырыя жывёлавыя

прадукты падлягаюць дэзынфэкцыі, паводле правіл аб дэзынфэкцыі. Шэрсьць можа выпушчацца без дэзынфэкцыі пры ўмове пакаваньня яе ў шчыльныя мяшкі, з асобнага дазволу вэтэрынарнага і санітарнага нагляду ў кожным выпадку.

§ 16. Прадметы, быўшыя ў датычнасьці з хвораю жывёлаю (ведры, вупраж і інш.), а таксама памяшканьне для сталага і часовага прабываньня хворай жывёлы павінны дэзынфэкавацца, паводле спэцыяльных правіл аб дэзынфэкцыі пад назіраньнем вэтэрынарна-санітарнага нагляду.

§ 17. У мясцовасьцях, небясьпечных па яшчуру, дзе праводзіцца масавая пераапрацоўка ці збор малака ў спэцыяльных памяшканьнях ці паасобных пунктах дапушчаецца дастаўка малака ад здаровых кароў у гэтыя малочныя, масларобныя заводы і зборныя пункты, знаходзячыеся на абшары небясьпечнага па яшчуру раёну з тым, каб усё дастаўляемае ў іх малако падлягала-б паўторнаму гатаваньню ці падаграваньню ў працягу 3-х хвілін пры 80° С.

§ 18. Пасудзіна, у каторай дастаўлялася малако ў памянёныя вышэй (§ 17) пункты ці сыраварні, павінна перад зваротам там-жа на месцы ачышчацца і абеззаражвацца, паводле паказаньняў вэтэрынарна-санітарнага нагляду.

§ 19. Астача ад пераапрацоўкі абеззаражаннага (§ 17) малака можа выпушчацца з малочнай толькі ў чыстай абеззаражанай пасудзе.

§ 20. Гной з заражаных памяшканьняў старанна прыбіраецца і складваецца ў высокія кучы ў мясцох, агароджаных ад разрыву хатняю жывёлаю. Для лепшага перагараньня кароўяга і сьвіннога гною да яго належыць у кучах дадаваць саломы, торфу, конскага ці якога-небудзь саломістага гною; не перагарэўшы гной можа быць дапушчан да вывазу ў выключных выпадках і толькі з дазволу вэтэрынарнага ўрача ў месцы, вызначаемыя сумесна з санітарным наглядам.

§ 21. Перад вывазам у поле куча гною зьверху абліваецца вапняным малаком. Вываз гною ў поле, асабліва не перагарэўшага, павінен рабіцца ў шчыльных калёсах ці скрынках, каб пазбавіцца раскіданьня яго па дарогах. Вывезены гной павінен быць старанна заворан; у выпадку вывазу ў поле неперагарэўшага гною, ён павінен быць ня менш як на 8 дзён складзен у полі ў высокія кучы, пасьля чаго ён можа быць раскіданы па полю і заворан. Вываз неперагарэўшага (§ 20) гною на рагатай жывёле не дапушчаецца.

§ 22. Пошасьць лічыцца спыніўшайся і двор, селішча, пункт абвяшчаюцца свабоднымі ад яшчуру па сканчэньні 21-дзённага тэрміну з часу выздараўленьня апошняй хварэўшай яшчурам жывёліны ці з часу апошняга падзяжу ад яшчуру пры адсутнасьці новых захварэньняў і пасьля правядзеньня ачысткі і дэзынфэкцыі заражаных памяшканьняў.

§ 23. Работа вэтэрынарна-выканаўчых камісій па барацьбе з яшчурам пачынаецца з моманту яе склісканьня (§ 5 Інструкцыі вэтэрынарна-выканаўчым камісіям), працягаецца ўвесь час існаваньня хваробы ці пагрозы яе і спыняецца па мінаваньні яшчуру ці магчымасьці заносу яго.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

Народны Камісар Унутраных Спраў **А. Сташэўскі.**

Начальнік Вэтэрынарнага Кіраўніцтва НКЗ БССР **Серпаў.**

11 кастрычніка 1926 г.

---

Зацьверджана Калегіяй НКЗ БССР
12 лістапада 1926 г. (прат. № 49, п. 4).

## 12. Палажэньне аб парадку адмежаваньня дзяржаўнага ляснога фонду БССР.

### I. Агульныя палажэньні.

1. Устанауленьне меж дзяржаўнага ляснога фонду выконваецца:

а) пры правядзеньні земляўпарадчых работ па сумежнасьці з дачамі дзяржаўнага ляснога фонду;

б) у парадку спэцыяльнага адмежаваньня дзяржаўнага ляснога фонду (калі гэта будзе Кіраўніцтвам Лясамі НКЗ знойдзена неабходным);

в) пры лесаўпарадкаваньні.

2. Праэкты акруговых апэрацыйных плянаў па земляўпарадкаваньні і па лясной гаспадарцы ў частцы, якая тычыцца работ па адмежаваньню дзяржаўнага ляснога фонду, Акр. Зем. Аддзеламі дакладна ўвязваюцца.

### II. Адмежаваньне дзяржаўнага ляснога фонду ў парадку земляўпарадкаваньня.

3. Адмежаваньне дзяржаўнага ляснога фонду, якое праводзіцца ў парадку п. „а“ арт. 1-га гэтага палажэньня, выконваецца на агульных падставах, устанаўляемых для правядзеньня земляўпарадчых і рэгістрацыйных работ (Зям. Кодэкс БССР, частка III-я) з прыстасаваньнем артыкулаў 4—8 гэтага палажэньня.

4. Пры адмежаваньні зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня ад сумежных з імі лясных дач, лясное ведамства прымае ўдзел у земляўпарадчых дзеях цераз упаўнаважаных прадстаўнікоў—лясьнічых ці іх памочнікаў.

Паказаныя асобы назначаюцца Лясным пад'аддзелам Акруг. Зямельн. Аддзелу загадзя да пачатку палявых работ; прычым паведамленьні, прадугледжаныя арт. 157 Зямельнага Кодэксу накіроўваюцца беспасрэдна вызначаным прадстаўніком.

5. Пры правядзеньні работ, пералічаных у арт. 3-м гэтага палажэньня, Кіраўніцтва Лясамі ніякіх выдаткаў па іх аплаце не нясе. Лес патрэбны для загатоўкі межавых знакаў па межах дзяржаўнага ляснога фонду адпускаецца бясплатна.

6. Пры адмежаваньні дзяржаўных фондаў ляснога ад зямельнага лясныя плошчы могуць пералічацца ў зямельны фонд толькі з захаваньнем парадку, прадугледжанага артыкуламі 57 і 58 Ляснога Кодэксу.

7. Пры сканчэньні земляўпарадчых дзеяў і зацьверджаньні земляўпарадчага праэкту Акруг. Зямельн. Аддзел па п/аддзелу земляўпарадкаваньня і мэліарацыі без асобнай аплаты выдае ляснному пад'аддзелу адзін экз. выкапіроўкі граніц з надпісамі аб іх зацьверджаньні.

### III. Адмежаваньне дзяржаўнага ляснога фонду ў парадку спэцыяльных работ і пры лесаўпарадкаваньні.

8. Адмежаваньне дзяржаўнага ляснога фонду ад зямельнага па пачыну Ляснога Кіраўніцтва і пры лесаўпарадкаваньні (арт. 1-ы, п. п. „б“ і „в“) выконваецца за кошт Ляснога Кіраўніцтва НКЗ БССР.

9. Земляўпарадчыя функцыі па адмежаваньні (арт. 8-ы Палажэньня) выконваюцца каморнікамі-земляўпарадчыкамі, якія прызначаюцца Акруговымі Зямельнымі Аддзеламі, тэхнічныя-ж дзеяньні, зьвязаныя з адмежаваньнем, выконваюцца спэцыялістымі лясных пад'аддзелаў і лесаўпарадчых партый.

10. Штогодна Акруговыя Зямельныя Аддзелы пры разгледжаньні пляну намячаемых земляўпарадчых работ выдзяляюць патрэбны лік каморнікаў-земляўпарадчыкаў для работ па адмежаваньні дзяржаўнага ляснога фонду, выконваемых у парадку арт. 8-га гэтага Палажэньня.

11. Акруговыя Зямельныя Аддзелы пры разьмяшчэньні каморнікаў-земляўпарадчыкаў (арт. 10-ты Палажэньня), па прадстаўленьню лясных пад'аддзелаў, могуць ускласьці на Загадчыкаў лесаўпарадчымі партыямі абавязкі каморнікаў-земляўпарадчыкаў, прычым выконваемыя імі работы праводзяцца пад кіраўніцтвам і кантролем пад'аддзелаў земляўпарадкаваньня і мэліарацыі Акруговых Зямельных Аддзелаў.

12. Тэхнічны кантроль з боку Акруг. Зямельн. Аддзелу за выкананьнем работ па адмежаваньню дзяржаўнага ляснога фонду ажыцьцяўляецца і праз Раённых Земляўпарадчыкаў, якія аб часе праверкі работ паведамляюць адпаведнага загадчыка лесаўпарадчай партыі, тэхнікі якой выконвалі работу.

13. Вызначаныя граніцы дзяржаўнага ляснога фонду пры адсутнасьці спрэчак і скарг, замацоўваюцца сталымі межавымі знакамі і праэкты адмежаваньня ў бясспрэчнай іх частцы накіроўваюцца да зацьверджаньня. У выпадку наяўнасьці спрэчак з боку сумежных землякарыстальнікаў і недасягненьня паміж імі згоды, спрэчныя праэктыруемыя межы дзяржаўнага ляснога фонду вызначаюцца ў натуры часовымі знакамі, пры чым па вырашэньні спрэчак, замена часовых знакаў сталымі праводзіццаляснымі органамі пад назіраньнем і кантролем каморнікаў-земляўпарадчыкаў.

14. Справы па замацаваньню меж ляснога фонду ўносяцца каморнікам-земляўпардчыкам (арт. 9 Палажэньня) непасрэдна ў Акруг. Зямельн. Аддзел разам з плянам меж у 2-х экзэмплярах.

15. Па канчатковым зацьверджаньні праэкту адмежаваньня дзяржаўнага ляснога фонду адзін экз. пляну меж (арт. 14 Палажэньня) з надпісамі аб яго зацьверджаньні выдаецца Лясному Кіраўніцтву без асобнай платы.

16. Аплата ўтрыманьня каморнікаў-земляўпарадчыкаў, а таксама выдача ім камандыровачнага харчаваньня (прагоны, сутачныя і кватэрныя) адносяцца на крэдыты Кіраўніцтва Лясамі па лесаўпарадкаваньню.

17. У разьвіцьцё гэтага Палажэньня Кіраўніцтвам Лясамі і Кіраўмэліяземам па ўзаемнай згодзе выдаюцца правілы выкананьня тэхнічных работ па адмежаваньні ляснога фонду.

Начальнік Кіраўніцтва Лясамі НКЗ **Воўкаў**.

Нач. Кіраўмэліязему НКЗ **А. Шычко**.

---

Выдана ў разьвіцьцё пастанову СНК БССР за 13 мая і 4-га верасьня 1926 года.

## 13. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### АБ ВОДПУСКУ ЛЕСУ З ЛЯСНОГА ФОНДУ БССР МЯСЦОВАМУ НАСЯЛЕНЬНЮ, МЯСЦОВЫМ ДЗЯРЖАЎНЫМ УСТАНОВАМ І НА МЯСЦОВЫЯ ПАТРЭБЫ.

1. Для вызначэньня патрэбы ў драўніне мясцовага насяленьня, мясцовых устаноў і на мясцовыя грамадзкія патрэбы і разьмеркаваньня паміж імі адпускаемай Народным Камісарыятам Земляробства драўніны арганізуюцца пастаянныя Лясныя Камісіі:

а) Сельскія—пры Сельскіх Саветах з прадстаўнікоў: Сельскага Савету, Сельскага Камітэту Ўзаемадапамогі і Лясьніцтва (аб'ездчыка) пад старшынством першага;

б) Раённыя—пры Раённых Выканаўчых Камітэтах з прадстаўнікоў: Раённага Выканаўчага Камітэту, Раённага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі, Сельска-Гаспадарчага Крэдытнага Таварыства і Лясьнічых ці іх памочнікаў Лясьніцтваў, знаходзячыхся на тэрыторыі раёну, пад старшынством першага;

в) Аб'яднаныя, пры тых Лясьніцтвах, якія задавальняюць мясцовыя патрэбы ў драўніне некалькіх раёнаў, пад старшынством Лясьнічага з удзелам прадстаўнікоў ад Раённых Выканаўчых Камітэтаў, якія імкнуцца да даннага Лясьніцтва. Гэтыя Камісіі запрашаюць прадстаўнікоў Раённага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі і зацікаўленых Сельска-Гаспадарчых Крэдытных Таварыстваў з правом дарадчага голасу;

г) Акруговыя—пры Акруговых Лясных пад'аддзелах пад старшынством Загадчыка Акруговага Ляснога Пад'аддзелу з прадстаўнікамі Акруговага Выканаўчага Камітэту і Акруговага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі;

д) Цэнтральная—пры Лясным Кіраўніцтве Народнага Камісарыяту Земляробства БССР пад старшынством Нач. Ляснога Кіраўніцтва з удзелам прадстаўнікоў Народнага Камісарыяту Фінансаў, Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі, Народнага Камісарыяту Шляхаў Зносін і Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскае Інспэкцыі.

2. Лясныя Камісіі склікаюцца па меры патрэбы па ініцыятыве Старшыні ці паасобных членаў і абслугоўваюцца апаратам тае ўстановы, прадстаўнік якое зьяўляецца старшынёю даннае Камісіі.

3. Да абавязкаў Лясных Камісій адносяцца:

а) падлік мясцовых спажыўцоў драўніны,

б) падлік драўніны, якая можа быць адпушчана,

в) разьмеркаваньне драўніны па спажыўцох,

г) разьмеркаваньне сум на бясплатныя, льготныя і крэдытныя водпускі лесу,

д) высьвятленьне асоб і грамадзкіх устаноў, якія маюць патрэбу ў бясплатным, льготным і крэдытным водпусках лесу.

Для падліку мясцовых спажыўцоў драўніны, Лясныя Камісіі павінны:

а) Сельскія—зрабіць пунктуальны падлік пагарэльцаў, земляўпарадкоўваемага насяленьня, бяднейшых сямей чырвонаармейцаў і іншае беднаты, якая мае патрэбу ў драўніне, вызначыць ступень патрэбнасьці ў лесе насяленьня, будуючага агнятрывалыя будынкі, саматужнікаў, займаючыхся пераапрацоўкай драўніны, і іншага

мясцовага насяленьня, вызначыць колькасьць драўніны, неабходнай для грамадзкіх патрэб (рамонту дарог і мастоў, якія робяцца сіламі і сродкамі мясцовага насяленьня, хат-чытален, клюбаў) і падаць аб гэтым падрабязныя зьвесткі ў Раённую Лясную Камісію;

б) Раённыя—зрабіць пунктуальны падлік неабходнай драўніны для мясцовых дзяржаўных і грамадзкіх установ (Выканаўчых Камітэтаў, школ, бальніц, грамадзкіх лазень, насенных магазынаў і г. д.), вызначыць неабходную колькасьць драўніны для саматужна-прамысловых арцелей па пераапрацоўцы драўніны і для гарадзкога насяленьня ў раёне, праверыць атрыманыя ад сельскіх камісій зводкі падліку спажыўцоў, скласьці падрабязную агульную зводку ўсіх патрэбнасьцяй у драўніне на мясцовыя спажыткі раёну і падаць з сваім заключэньнем у Акруговую Лясную Камісію.

в) Акруговыя—выявіць колькасьць драўніны, неабходнае для насяленьня і установ акруговых гарадоў, для дарог акруговага значэньня, праверыць атрыманыя ад раённых Лясных Камісій зводкі, скласьці агульную зводку ўсіх спажыўцоў драўніны на мясцовыя патрэбы па акрузе і падаць са сваім заключэньнем ў Цэнтральную Лясную Камісію.

г) Цэнтральная—скласьці агульную зводку ўсіх патрэб у драўніне па БССР на падставе зводак, атрыманных як ад акруговых Лясных Камісій, так і ад прамысловых прадпрыемстваў, транспарту і розных другіх дзяржаўных арганізацый, каапэрацыі і іншае.

5. Для падліку драўніны, якая можа быць адпушчана, павінны:

а) Сельскія Лясныя Камісіі—вызначыць колькасьць драўніны, якая можа быць адпушчана з лясоў мясцовага значэньня, уключыўшы сюды ўвесь мёртвы лес (сухастой, ветравал, буралом, валежнік, вяршыны, гальлё і іншыя рэшткі ад загатовак), сырарастучы з лесасек і вырубаемы ў парадку догляду за лесам—пні, карчы, недаючыя адросткаў, якія могуць быць скарыстаны на апал, а таксама і колькасьць драўніны з паасобных дрэваў, іх груп і дробных вучасткаў лесу, якія знаходзяцца на сялянскіх палёх, сенажацях, выганах і, апрача таго, магчымую да здабыцьця колькасьць торфу для апалу і зводку драўніны з падзелам на будаўляную і дравяную і торфу з паказаньнем, якое сяленьне і ў якой колькасьці будзе карыстацца гэтым матар'ялам,—падаць у Раённую Лясную Камісію;

б) Лясьнічыя складаюць паасобна па дачах сваіх Лясьніцтваў ведамасьці на ўвесь той лес, які магчыма адпусьціць, імення:

1) Мёртвый лес (сухастой, ветравал, буралом, стары валежнік, вяршыны і сучча і іншыя рэшткі ад лесазагатовак);

2) Л е с зрублены і падлягаючы вырубцы пры розных лясных работах,

3) Сасновыя пнёвыя смалякі,

4) Карчы і карэньні іншых лясных парод, якія страцілі здольнасьць даваць адросткі,

5) Л е с, які пашкоджан пажарам і караедам да ступені спыненьня росту,

6) Кустовыя пароды, нескладаючыя сталага карыстаньня,

7) Л е с на лясных плошчах, якія зьяўляюцца няўдобнымі.

8) Л е с на вучастках, перадаваемых ў зямельны фонд,

9) Л е с вырубаемы ў парадку догляду за насаджэньнямі,

10) Л е с на каштарысных лесасеках галоўнага карыстаньня, прызначаных для сплашной рубкі,

11) Л е с на каштарысных лесасеках галоўнага карыстаньня, якія прызначаны для паступовай вырубкі.

*Увага.* Зьвесткі аб лесе, памянутым у п.п. 2, 3, 5, 6, 9, 11, як падлягаючым распрацоўцы гаспадарчым спосабам, падаюцца непасрэда ў Акруговую Лясную Камісію, а зьвесткі аб лесе, памянутым у іншых п. п. абзацу „б“—непасрэдна ў Раённую Лясную Камісію.

в) Раённыя Лясныя Камісіі—абавязаны сабраць падрабязныя зьвесткі аб колькасьці загатаўляемых па раёну агнятрывалых матар'ялаў, якія ідуць для сельскага агнятрывалага будаўніцтва, скласьці агульную зводку ўсяе магчымае да водпуску драўніны і торфу на падставе матар'ялаў, прысланых Сельскімі Саветамі і Лясьнічымі, паказаць, дзе павінны быць адчынены Лясныя склады для задавальненьня насяленьня і ўстаноў загатоўленымі Лясным ведамствам лесаматар'яламі і дрывамі і ў якой колькасьці, вызначыць якая найменшая колькасьць лясоў дзяржаўнага значэньня з ліку паказаных ў даных Лясьнічых прадугледжана для задавальненьня мясцовых патрэб, як водпускам на месцы, так і са складаў у загатоўленым відзе, у межах паказаных ніжэй вышэйшых норм, залічаючы пры гэтым і наяўнасьць драўніны, якая можа быць адпушчана з лясоў мясцовага значэньня і знаходзячыхся на сялянскіх землях, а таксама наяўнасьць торфу і агнятрывалых матар'ялаў, і якое павінна быць пакінута для задавальненьня іншых патрэб Дзяржавы (прамысловасьці, транспарту і г. д.), кіруючыся пры гэтым тым, што на мясцовыя патрэбы ў першую чаргу будзе адпушчацца лес мертвы, карчы і карэньні і лес на вучастках зямельнага фонду, у другую чаргу—лес зрублены і падлягаючы зрубу пры розных лясных работах, кустовыя пароды, лес на няўдобных плошчах і ў выпадку недахвату гэтага лесу, у трэцюю чаргу—лес з каштарысных лесасек, а для Лясных складаў—лес вырубаемы ў парадку догляду за насаджэньнямі, мертвы лес і лес з каштарысных лесасек паступовай рубкі, з зямельных фондаў і зводную ведамасьць падаць ў Акруговую Лясную Камісію,

г) Акруговыя Лясныя Камісіі павінны па зьвестках, атрыманых ад Раённых Лясных Камісій і ад Лясьнічых, пасьля іх разгляду і праверкі, скласьці агульную зводку ўсяго гадовага водпуску і неабходнага з гэтае колькасьці водпуску для задавальненьня мясцовых патрэб у межах зробленага падліку і з сваім матываваным заключэньнем падаць у Цэнтральную Лясную Камісію:

д) Цэнтральная Лясная Гандлёвая Камісія складае агульную зводку ўсяго гадовага водпуску па БССР з лясоў дзяржаўнага значэньня.

*Увага.* Зьвесткі, паказаныя ў §§ 4 и 5, сельскія Лясныя Камісіі і Лясьнічыя падаюць штогодна ў Раённую Лясную камісію да 1 ліпеня, а Раённыя Лясныя Камісіі і Лясьнічыя ў Акруговыя Лясныя Камісіі да 15 ліпеня, а апошнія ў Цэнтральную Гандлёвую Лясную Камісію—да 1 жніўня.

6. Для разьмеркаваньня ў плянавым парадку ўсяго гадовага водпуску драўніны з лясоў дзяржаўнага значэньня і фонду на льготныя бясплатныя, крэдытныя водпускі лесу Лясныя Камісіі павінны:

а) Цэнтральная—магчымы гадовы водпуск драўніны ўвязаць з прад'яўленым попытам і разьмеркаваць водпуск па Лясьніцтвах і адначасова разьмеркаваць вызначаны Эканамічнаю Нарадай (§ 10) фонд на льготныя, бясплатныя і крэдытныя водпускі па акругах, пры чым разьмеркаваньне крэдытных водпускаў робіцца па ўзгадненьню з Белсельбанкам;

б) Акруговыя Лясныя Камісіі—разьмеркаваць назначаныя на каждую акругу фонды на бясплатны і льготны водпуск лесу па Лясьніцтвах і раёнах, прычым 5 проц. з фонду пакідаюць у сваім распараджэньні на выпадак не прадугледжаных патрэбнасьцяй, а фонд на крэдытныя водпускі—разьмеркаваць па Лясьніцтвах і Сельска-Гаспадарчых Таварыствах у парадку правіл па крэдытаваньню лесам.

в) Аб'яднаныя Лясныя Камісіі—разьмеркаваць між раёнамі прызначаную да водпуску Цэнтральнай Лясной Гандлёвай Камісіяй драўніну на мясцовыя патрэбы і фонды на бясплатныя, льготныя і крэдытныя водпускі лесу, назначаныя Акруговымі Ляснымі Камісіямі;

г) Раённыя Лясныя Камісіі—разьмеркаваць назначаную Цэнтральнай Лясной Гандлёвай Камісіяй (і аб'яднанай) драўніну цэлымі дзялянкамі паміж паасобных дзяржаўных устаноў і на грамадзкія патрэбы, а рэшту—па сельсаветах і аднача сна разьмеркаваць фон на бясплатны, льготны і крэдытны водпуск лесу па сельсаветах, пры чым ад 5 да 10 проц. прызначанай да разьмеркаваньня драўніны (па магчымасьці цэлымі дзялянкамі) і 10 проц. ад бясплатнага і льготнага фонду застаецца ў запасе не разьмеркаваным да 15-га лютага на выпадак задавальненьня не прадугледжаных патрэб і падрабязную ведамасьць разьмеркаваньня драўніны з паказаньнем дач, дзялянак, колькасьці драўніны і г. д. і фонду на льготныя, бясплатныя і крэдытныя патрэбы для кожнае дзяржаўнае грамадзкае установы і сельсавету падаць Лясьніцтву для кіраваньня пры водпуску лесу.

д) Сельскія Лясныя Камісіі назначаную да водпуску для Сельскіх Саветаў драўніну павінны разьмеркаваць цэлымі дзялянкам паасобным групам грамадзян (па магчымасьці аднаго сяленьня), з паказаньнем іх месца пражываньня, імя, імя па бацьку і прозьвішча, разьмеркаваць паіменна фонд на льготныя і бясплатныя водпускі лесу між бяднейшымі грамадзянамі і падрабязныя сьпіскі разьмер. каваньня паслаць Лясьнічаму для кіраваньня, а сьпіс грамадзян, якім лес даецца за плату - для ведама Сельска-Гаспадарчаму Таварыству

7. Разьмеркаваньне гадовага водпуску павінна быць скончана Цэнтральнай, Акруговай, Аб'яднанай і Раённай Ляснымі Камісіямі з такім разьлікам, каб Сельскія Лясныя Камісіі маглі распачаць разьмеркаваньне не пазьней 1 кастрычніка.

8. Драўніна на будаваньне і апал адпускаецца ў залежнасьці ад магчымага гадовага водпуску ня звыш наступных норм:

## На будынкі:

а) на дом з сянямі даўжынёю 10,7 мэтраў і шырынёю 6,4 мэтраў—34 куб. мэтры будаўнічага лесу (прыблізна дрэваў 1 разр вышыні: 50 шт., грубінёю на вышыні грудзей 8—15 сантымэтраў і 7 шт. грубінёй 34—46 сантымэтраў);

б) на сарай або гумно даўжынёю 11,4 мэтраў і шырынёй 5,7 мэтраў—15,5 куб. мэтраў (прыблізна дрэваў 1 разраду вышыні 35 шт., грубінёй на вышыні грудзей 8—15 сантымэтраў і 35 шт. грубінёй 16—28 сантымэтраў);

в) на клець ці варыўню даўжынёй 5 мэтраў і шырынёй 5 мэтраў—11 куб. мэтраў (прыбл зна 25 шт. дрэваў грубінёй на вышыні грудзей 8—15 сантымэтраў і 28 шт. дрэваў грубінёй 16—28 сантымэтраў);

г) на рамонт будынкаў адпускаецца ня больш 25% нормы, патрэбнай на новы будынак;

е) на будынкі мясцовых дзяржаўных установ і на грамадзкія патрэбы ня больш вызначанага тэхнічнымі каштарысамі, зацьверджанымі адпаведнымі органамі.

## На апал:

ж) аднаго сялянскага двара ня больш 9 плотных куб. мэтраў у год;

з) на кожную печ для дзяржаўных і грамадзкіх установ ня больш 4,5 плотн. куб. мэтраў у год.

Пры водпуску лесу на будаўніцтва дрэвамі ў норму залічаецца толькі будаўляная драўніна, згодна сартымэнтных табліц, а дрывяны адход залічаецца ў норму на апал той установе або асобе, якая атрымала лес;

і) у малалесных і сярэднялесных раёнах пры недахваце дроў да нормы замяняюць іх хворастам, вяршынамі, гальлём, карчамі і карэньнямі ці торфам па наступнаму разьліку:

1 куб. мэтр дроў—4 куб. мэтры хворасту.
1 „ „ „ —2 „ „ вяршын і гальля.
1 „ „ „ —1,3 „ „ карчоў і карэньняў.
1 „ „ „ — ад 1 да 2 „ торфу у залеж. ад яго складу.

*Увага 1.* Хворастам лічацца тонкія дрэвы з вяршынамі гальлём грубінёй у камлі ня больш 4 сантымэтраў.

*Увага 2.* Торф залічаецца ў норму ў тым выпадку, калі робіцца яго распрацоўка.

9. Разьмеркаваньне драўніны паміж насяленьнем робіцца не параўнальнае, а ў неабходнай колькасьці, ня звыш нормы неабходнай для заканчэньня работы па пабудове або рамонту.

10. Назначаемы штогодна Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР рэспубліканскі фонд для бясплатных, па зьніжанай таксе (льготных) і крэдытных водпускаў лесу Цэнтральная Лясная Камісія разьмяркоўвае наступным чынам: 50% ідзе на бясплатныя і льготныя водпускі лесу і 50% на крэдытаваньне насельніцтва лесам праз Белсельбанк.

11. Бясплатны і па паніжанай таксе водпуск лесу можа праводзіцца толькі бяднейшаму насяленьню і на грамадзкія патрэбы.

Да бяднейшага насяленьня прылічаюцца:

а) бяднейшыя ваенна-служачыя Чырвонае Арміі, вядучыя працоўную сельскую гаспадарку і прытым, як знаходзячыеся на сапраўднай службе, так і зволеныя ў бестэрміновы водпуск, запас або зусім ад службы ў працягу году пасьля звальненьня;

б) інваліды працы і вайны;

в) асобы, якія знаходзяцца на сацыяльным забесьпячэньні;

г) землякарыстальнікі ня маючыя коней;

д) сялянскія сем'і, вызваленыя ад сельска-гаспадарчага падатку;

е) пагарэльцы;

ж) расьсяленцы на паселкі пры землябудаўніцтве;

з) бяднейшыя сялянскія гаспадаркі, перайшоўшыя да грамадзкай апрацоўкі зямлі;

і) бяднейшае сялянскае насельніцтва, якое будуе агнятрываныя будынкі ў сельскіх мясцовасьцях;

Да грамадзкіх патрэб адносяцца:

а) дарогі і масты мясцовага значэньня, якія ўтрымліваюцца сіламі і сродкамі мясцовага насяленьня;

б) хаты-чытальні;
в) школы ў сельскіх мясцовасьцях;
г) клюбы;
д) больніцы;
е) грамадзкія лазьні;
ж) грамадзкія насенныя магазыны.

12. Дробны валежнік, ламачча і пні, страціўшыя здольнасьць пускаць адросткі, апрача сасновых, адпускаюцца бяднейшаму насяленьню з залікам у норму апалу бясплатна, але без заліку ў фонд на льготныя і бясплатныя водпускі лесу.

13. Бясплатны і льготны водпуск звыш устаноўленых сум, а таксама на іншыя патрэбы, не памянутыя вышэй (на апал, пабудову і рамонт памяшканьняў Раённых Выканаўчых Камітэтаў і іншых установў і т. п.), які зроблен па пастанове мясцовых раённых або акруговых выканаўчых камітэтаў, падлягае залічэньню на кошт адлічэньняў ад лясных даходаў у мясцовыя сродкі.

14. Рашэньні ніжэйшых лясных камісій могуць быць абскарджаны ў вышэйшую. Акруговая Лясная Камісія ўсе скаргі вырашае канчаткова.

15. Група грамадзян, якая атрымала па разьверстцы ад Сельскай Лясной Камісіі пэўную дзялянку лесу, павінна з свайго складу выбраць упаўнаважанага для афармленьня пакупкі лесу ў Лясьніцтве і выплаты патрэбных плацяжоў.

16. Пасьля разьмеркаваньня лесу Раённымі і СельскіміЛяснымі Камісіямі Лясьнічы паводле сьпіскаў адпускае лес насяленьню, дзяржаўным установам і на грамадзкія патрэбы з назначанага Цэнтральнай Гандлёвай Лясной Камісіяй ляснога фонду без асобнага на гэта распараджэньня Кіраўніцтва Лясамі і Акруговых Лясных пад'аддзелаў.

17. Для водпуску лесу Лясьнічыя вызначаюць 3 дні у тыдзень, аб чым аб'яўляюць праз Раённыя Выканаўчыя Камітэты, Сельскія Саветы і лясную варту, а таксама даводзяць да ведама аб гэтым Акруговыя лясныя пад'аддзелы.

18. Пасьля разьмеркаваньня драўніны насельніцтва, дзяржаўныя і грамадзкія ўстановы павінны ўзяць лесарубачныя білеты на адпушчаны для іх лес у працягу месячнага тэрміну; увесь лес, на які ў працягу гэтага тэрміну ня будуць узяты лесарубачныя білеты, нанова разьмяркоўваецца Раённымі і СельскіміЛяснымі Камісіямі паміж грамадзян, якія не ўвайшлі ў першапачатковы сьпіс разьмеркаваньня.

19. Тэрмінам апэрацый адпушчанага на мясцовыя патрэбы лесу ўстанаўляецца 1-е красавіка.

Водпуск дробнага валяжу, хворасту і пнёў можа Лясьнічымі праводзіцца і ў летні, але небясьпечны ў пажарных адносінах час, з захаваньнем усіх неабходных перасьцярог ад пажару.

У гэтакіх выпадках тэрмін апэрацый устанаўляецца па магчымасьці кароткі, ня больш 7 дзён.

20. Высокасортны будаўляны лес у дзялянках, намечаных да водпуску на мясцовыя патрэбы, як-та: дуб і ясень, вольха, бяроза і асіна, тоўстамерная хвоя і ель, неабходныя для задавальненьня патрэб прамысловасьці, падлічваюцца асобна і на мясцовыя патрэбы не адпускаюцца, а прылічаюцца як недаруб, да агульнага лесасечнага фонду наступнага году.

21. Падлік адпускаемай драўніны Лясьніцтвы абавязкова вядуць так:

а) дзялянак каштырыснай лесасекі—па плошчы,
б) сухастою, сьвежага буралому і ветравалу і лесу вырубаемага

пры прамяжутачных рубках грубінёю больш 9 сантымэтраў—па ліку заклейменых і занумараваных пнёў;

в) тонкамернага сухастою, буралому, ветравога павалу і лесу вырубаемага пры прамяжутачных рубках—меней 9 сантымэтраў—таксама па ліку. Заклейменых і занумараваных пнёў, а валяжу, рэшткаў ад загатовак, хворасту, пнёў і карчоў—па ліку загатовак матар'ялаў.

Дваякі падлік па аднэй і тэй-жа плошчы забараняецца.

22. Пры падрыхтоўцы лесу да водпуску як пры падліку па плошчы, так і пры падліку па пнёх, дрэвы ўсіх парод дзеляцца па якасьці на будаўнічыя, паўбудаўнічыя і дрывяныя.

Да будаўнічых адносяцца дрэвы тыя, калі яны могуць пайсьці на будову або вырабы ня менш $^2/_3$ кубатуры, паказанай у сартымэнтных тэблiцах, да паўбудаўнічых ад $^1/_3$ да $^2/_3$ і да дрывяных—ня больш $^1/_2$ паказанай кубатуры.

Разрад па масавых табліцах устанаўляецца пры падліку па плошчы для кожнай пароды паасобна, а пры падліку па пнёх для кожнага дрэва паасобна пры дапамозе мадэльных дрэў і высатамеру.

23. Ацэнка робіцца па таксах 1924 г. з аднясеньнем Лясьніцтваў да разрадаў такс, паводле зацьверджанай Эканамічнай Нарадай ведамасьці.

*Увага.* Ацэнка паўбудаўнічых хлыстоў выводзіцца з паўсумы будаўнічага і дрывяного хлыстоў.

24. Пры льготным і бясплатным водпуску лесу розьніца між коштам яго па таксе за 22 верасьня 1924 г. і продажнай цаной не павінна перавышаць па кожнаму лясьніцтву сум, паказаных у § 78.

25. На загатоўку і вывазку лесу абавязкова павінен выдавацца Лясьнічым, яго памочнікам або аб'ездчыкам лесарубачны білет вызначанай формы, прычым аб'ездчыкі могуць выдаваць у адны рукі білет на суму ня звыш 20 руб. і пераважана на мёртвы лес.

Выдача білетаў робіцца памянутымі асобамі як у сваіх канцылярыях, таксама і ў сяленьнях, для чаго лясьнічыя і іх памочнікі выязджаюць ня менш аднаго разу ў месяцу Сельскія Саветы аб'вяшчаюць аб дні такога продажу загодзя праз лясную варту і Сельскія Саветы.

Білеты выдаюцца на імя ўпаўнаважанага ад групы грамадзян, паказанай у сьпіску разьмеркаваньня, на кожную дзялянку асобна.

Дзялянкі з сплашной рубкай для зручнасьці і аблягчэньня грамадзян, адводзяцца па магчымасьці невялічкімі плошчамі, не перавышаючымі $^1/_4$—$^1/_2$ гэктара, гледзячы па якасьці і каштоўнасьці драўніны.

Сухастой, ветралом і буралом пры пераліку злучаюцца у паасобныя дзялянкі ў колькасьці да 100—200 пнёў у залежнасьці ад якасьці і каштоўнасьці драўніны.

Лесарубачны білет на матар'ялы адпускаемыя з падлікам па колькасьці выпісваецца або на точную колькасьць загатаўляемой драўніны або на прыкладную, прычым у апошнім выпадку перапруб дазваляецца ня больш 25%, аб чым і робіцца адзнака ў білеце.

26. Ачыстка месц рубкі ўскладаецца на лясьнічага, для аплаты правядзеньня, якое ен бярэ з грамадзян, дзяржаўных і грамадзкіх устаноў пры выдачы ім білета асобную плату ў разьмеры 20 руб. з гэктара пры падліку па плошчы і па 10 кап. з куба-мэтра пры іншых спосабах падліку.

26. У уважлівых выпадках Лясьнічыя могуць дазваляць адтэрмінаваньне апэрацый па выданаму лесарубачнаму білету на тэрмін не далей канца апэрацыйнага году (1-га кастрычніка). Адтэрмінаваньне на больш доўгі тэрмін дазваляецца Акруговымі Ляснымі Пад'аддзеламі.

*Увага 1.* Адтэрмінаваньне дазваляецца пры ўмове поўнай аплаты ўсіх належачых плацяжоў і калі хадайніцтва аб адтэрмінаваньні паступіла да сканчэньня тэрміну апэрацыі.

*Увага 2.* За адтэрмінаваньне з дзяржаўных устаноў сыскваецца пеня па $1/2\%$ ў месяц з продажнага кошту матар'ялаў застаўшыхся ў лесе.

28. У выпадку неабходнасьці зрабіць растэрміноўку плацяжу за адпушчаны лес Лясьнічаму даецца права зрабіць яе, але на тэрмін ня больш 2-х месяцаў, з сыскваньнем пені за кожны адтэрмінаваны месяц па $1^1/_2\%$ з адтэрмінаванай сумы і бяз права вывазу лесу з дачы да поўнай аплаты.

29. За парубкі і іншыя лясныя парушэньні пакупшчык падлягае сысканьню, паводле таксы налічэньня страт ад лясных правапарушэньняў за 19 студзеня 1925 г.

30. Лес, адпушчаны ў парадку гэтае інструкцыі павінен быць скарыстаны па сваім прызначэньні і ў выпадку перапродажу з вінаватых сыскваецца кошт яго па таксе з гандлёвым наддаткам, лес сэквэструецца і вінаваты прыцягваецца да крымінальнай адказнасьці.

31. Старшыні Лясных Камісій за парушэньне правіл, паказаных у гэтай інструкцыі падлягаюць адказнасьці па 105 арт. Крым. Кодэксу.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Начальнік Ляснога Кіраўніцтва НКЗ **Воўкаў.**

Загадчык Эксплёатацыйнага Аддзелу **Я. Сядашаў.**

---

Выдана на падставе пастановы Савету Працы і Абароны і Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 13 студзеня 1926 г.

## 14. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Земляробства, Унутраных Спраў і Гандлю БССР

АБ ПАРАДКУ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ Ў ЖЫЦЬЦЕ ПАЛАЖЭНЬНЯ АБ СЭРТЫФІКАТАХ І ІХ ВЫДАЧЫ НА ВЫВАЗІМЫЯ З АБШАРАЎ БССР ЗА ГРАНІЦУ ЖЫВЁЛУ І ПРАДУКТЫ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ.

§ 1. Народны Камісарыят Земляробства сумесна з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў без адкладу дасылаюць усім Акруговым і Раённым Выканаўчым Камітэтам форму пасьведчаньняў (форма № 1), якія павінны быць выдаваемы міліцыяй ці сельскімі Саветамі ўласьнікам на прызначаемыя імі да адпраўкі за граніцу партыі жывёлы і прадуктаў жывёлагадоўлі, з паказаньнем умоў і парадку выдачы памянёных пасьведчаньняў.

*Увага.* Пасьведчаньні па форме № 1 выдаюцца пры адпраўцы жывёлы і прадуктаў жывёлагадоўлі ў тыя чужаземныя дзяржавы, з якімі ня зроблена асобных аб парадку адправак умоў.

Формы-ж пасьведчаньняў для жывёлы і прадуктаў жывёлагадоўлі ў тыя дзяржавы, з якімі зроблены такія ўмовы, будуць дасылацца асобна.

§ 2. Па атрыманьні памянёнай у п. 1-м формы, адпаведныя Выканаўчыя Камітэты зараз-жа дасылаюць яе разам з паказаньнем ўмоў і парадку выдачы пасьведчаньняў, для кіраваньня ва ўсе мясцовыя раёны міліцыі, сельскія і местачковыя Саветы.

§ 3. Народны Камісарыят Земляробства па Вэтэрынарнаму Кіраўніцтву дасылае Акрземаддзелам формы пасьведчаньняў з паказаньнем умоў і парадку выдачы іх:

а) урадавым вэтэрынарным урачом пры пунктах пагрузкі жывёлы і прадуктаў (формы №№ 2, 3, 4).

б) вэтэрынарным ўрачом разьніц пры адпраўцы заграніцу мяса і іншых прадуктаў забою (форма № 5).

*Увага.* Формы пасьведчаньняў №№ 2, 3, 4 зараз-жа дасылаюцца адпаведнымі Акруговымі вэтэрынарнымі пад'аддзеламі з паказаньнем умоў і парадку выдачы ўсім урадавым вэтурачам, на якіх ускладзен у акругах і раёнах дагляд за перасоўваньнем жывёлы і прадуктаў жывёлагадоўлі, а форма № 5—вэтэрынарным урачом, ведаючым вэтэрынарна-санітарным наглядам у разьніцах.

§ 4. Народны Камісарыят Земляробства па Вэтэрынарнаму Кіраўніцтву без адкладу дасылае вэтэрынарным урачом, ведаючым вэтэрынарна-санітарным наглядам на выхадных пагранічных кантрольна-экспартных пунктах, формы сэртыфікатаў, выдаваемых перад пагрузкай жывёлы (форма № 6), мясных прадуктаў (форма № 7) і іншых прадуктаў жывёлагадоўлі (форма № 8) для адпраўкі іх заграніцу з паказаньнем умоў і парадку выдачы такіх сэртыфікатаў.

*Увага.* Формы сэртыфікатаў за №№ 6, 7, 8 адпавядаюць прыкладным формам А, Б, В, прынятым міжведамственнай нарадай, адбыўшайся ў Маскве 1 лютага 1926 г.

§ 5. Пры выдачы сэртыфікатаў за №№ 6, 7, 8 пасьведчаньні па форме № 1 і пасьведчаньні па формах №№ 2, 3, 4 і 5 адбіраюцца і хаваюцца ў справах пагранічных кантрольна-экспартных пунктаў.

§ 6. Выдаваемыя на прызначаныя для адпраўкі за граніцу жывёлу і прадукты жывёлагадоўлі пасьведчаньні па формах за №№ 2, 3, 4 і 5, а таксама і сэртыфікаты па формах за №№ 6, 7 і 8 падпісваюцца вэтэрынарнымі ўрачамі, аўтэнтычны ўзор падпісу якіх (факсіміле) павінен быць прадстаўлен у Вэтэрынарнае Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Земляробства з прыкладам устаноўленай законам пячаткі.

§ 7. Ва ўсіх-жа іншых выпадках парадак выдачы вэтэрынарна-санітарных дакумэнтаў устанаўляецца на падставе і ў поўнай згоднасьці з вымаганьнямі агульнай інструкцыі па вэтэрынарна-санітарнаму нагляду на транспарце.

Дадатак: 8 форм пасьведчаньняў і сэртыфікатаў.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў**.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі**.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **Піскуноў**.

Начальнік Вэтэрынарнага Кіраўніцтва НКЗ **Серпаў**.

30 лістапада 1926 г.

ДАДАТАК 1.

Форма № 1.

## Нагляд за перасоўваньнем жывёлы і сырых жывёлавых прадуктаў.

Форма № 1. Першапачатковае пасьведчаньне сельскай улады на вывазімыя за граніцу партыі жывёлы і сырых жывёлавых прадуктаў .................. Месца выдачы (селішча, мястэчка і інш.) .................

.................................................. раён ..................

.................................. акруга ..................................

Рэспубліка ..................................................

## ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ № ..................

.................................. году .................................. месяца .................................. дня. Выдадзена гр. (імя, імя па бацьку, прозьвішча, установа) ..................................

у тым, што падрыхтаваныя імі ..................................

для адпраўкі ў (найменьне чужаземнай дзяржавы) ..................

(найменьне жывёлы, гатунак мяса і іншых сырых жывёлавых прадуктаў ..................................

паходзяць з мясцовасьцяй, дзе няма ніякіх заразьлівых і пошасных хвароб жывёлы, пры якіх, на падставе існуючага Вэтэрын. Кодэксу, вываз жывёлы і прадуктаў жывёлагадоўлі не дазваляецца.

(М. П.). Подпіс ..................................

(Пасьведчаньне гэтае падпісваецца належным прадстаўніком сельскай улады, прычым, пасада і прозьвішча асобы, выдаўшай пасьведчаньне, павінны быць вызначаны дакладна і ясна).

---

НА АДВАРОЦЕ ЯГО:

## Вэтэрынарна-санітарны нагляд СССР.

(Надпіс вучастковага ці іншага ўрадавага вэтэрынарн. ўрача на першапачатковым пункце агляду, калі такі меў месца да прыбыцьця жывёлы і прадуктаў жывёлагадоўлі на пагрузачную станцыю ці водную прыстань).

Месца агляду (горад, мястэчка, селішча і інш) ..................

.................................. раён .................................. акруга .................................. Рэспубліка

.................. году .................. месяца .................. дня ..................

Памянёныя на адвароце гэтага ..............................................................................
(род жывёлы) у колькасьці ....................................................... галоў мною агледжаны гэтага дня і знойдзены здаровымі.

Памянёныя гатункі мяса і іншых сырых жывёлавых прадуктаў у колькасьці........................................................... (пакоў, цюкоў і інш.) ........................................................ знойдзены мною пры аглядзе гэтага для запакаванымі з належнай чыстатой і стараннасьцю.

(М. П.) (Подпіс) ..............................................

(Падпісваецца вучастковым альбо іншым урадавым вэтэрынарным урачом, пры чым дакладна вызначаецца пасада яго і прозьвішча, з прыкладам прысвоенай яму пячаткі).

Месца для адзнак, вэтэрынарнага нагляду аб выніках агляду партый у дарозе.

---

ДАДАТАК 2.

Форма № 2

Вэтэрынарна-Санітарны Нагляд СССР.

Форма № 2. (Пасьведчаньне, выдаваемае ўрадавым вэтэрынарным урачом пры станцыі пагрузкі на ідучую за граніцу жывёлу.

Месца выдачы (станцыя чыгункі, прыстань)..............................
.................................................... (месца знахаджэньня станцыі, прыстані)........................................ раён ...........................................
акруга ............................................ Рэспубліка ..............................

## ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ №..........

.............................................. году .......................................... месяца ...................................... дня. Выдадзена гр. (імя, імя па бацьку, прозьвішча, установа)......................... у тым, што ў партыі (род жывёлы) ............................ у ліку............................ галоў, якая выйшла, як гэта відаць з пералічаных на адвароце гэтага пасьведчаньня, з бясьпечн ............................ адносна эпізоотый мясцовасьц пры маім аглядзе гэтага дня перад пагрузкай у вагоны (на судно) ня знойдзена жывёлы хворай ці падазронай у захварэньні якой-небудзь заразнай і пошаснай хваробай, у прыкананьне чаго на правым рагу (вуху) накладзена кляймо „З“.

Жывёла прызначана ісьці да выхадной станцыі (прыстані)..........
........................................................ у абчышчаных і дэзынфэкаваных

вагонах за №№ ___

пры накладных (транспартных дакумэнтах) за №№ ......

з мэтаю адпраўкі іх у ___

назва чужаземнай дзяржавы).

(М. П.) (Подпіс) ___

(Падпісваецца вэтэрынарным урачом станцыі пагрузкі з адбіткам прысвоенай яму пячаткі).

---

НА АДВАРОЦЕ ЯГО:

Пералік пасьведчаньняў выдадзеных С/Саветамі і Міліцыяй:

| Калі выдадзены пасьведчаньні і нумары іх | Кім выдадзены і каму [імя, імя па бацьку, прозьвішча і ўстанова] | Род жывёлы | Колькасьць галоў | Месца пахаджэньня жывёлы |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

(М. П.) Згодна: (Подпіс) ___

(Подпісваецца ясна вэтэрынарным урачом станцыі пагрузкі).

---

ДАДАТАК №3.
Форма 3.

## Ветэрынарна-Санітарны Нагляд СССР.

Форма № 3. Пасьведчаньне, выдаваемае дзяржаўным вэтэрынарным урачом пры станцыі (прыстані) пагрузкі на ідучыя за граніцу сырыя жывёлавыя прадукты (апрача мясных).

Месца выдачы (станцыя чыгункі, прыстань) ......

(месца знаходжэньня станцыі, прыстані) ......

раён ...... акруга ......

Рэспубліка ......

## ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ № ......

...... году ...... месяца ___ дня. Выдадзена гр. (імя, імя па бацьку, прозьвішча, установа, фірма) ___

...... у тым, што пры аглядзе гэтага дня

партыі (найменьне сырых жывёлавых прадуктаў) ..................
у колькасьці пакоў, цюкоў і інш.) ..................вагой..................
кілёграмаў, вывезеных, як відаць з пералічаных на адвароце гэтага пасьведчаньняў, з бясьпечн ..................мясцовасьц ..................
..................знойдзена: упакоўка паказаных прадуктаў зроблена з належнай чыстатою і стараннасьцю.

Памянёныя сырыя жывёлавыя прадукты з накладзенымі на (пакі, цюкі і інш.)..................плёмбамі з адзначэньнем № вэтэрын. сан. пункту накіроўваюцца да выхадной станцыі (прыстані) у абчышчаных вагонах за №№ ..................пры накладных (транспартных дакумэнтах) за № №.................. з мэтаю адпраўкі іх у ..................(найменьне чужаземнай дзяржавы).

(М. П.) Подпіс..................

Падпісваецца ясна ўрадавым вэт. урачом, які рабіў агляд прадуктаў перад пагрузкай, з дакладным паказаньнем займаемай ім пасады і з прыкладам пячаткі).

---

НА АДВАРОЦЕ ЯГО.

Пералік пасьведчаньняў, выдадзеных сельскімі саветамі і міліцыяй, вучастковымі вэт. ўрачамі і вэтэрынарным наглядам разьніц.

| Калі выдадзены пасьведчаньні і нумары іх. | Кім выдадзены і каму (імя, імя па бацьку і прозьвішча), установа і фірма. | Род сырых жывёлавых прадуктаў. | Найменьне ліку і месц пакаваньня | Вага ў кілёграмах. | Месца пахаджэньня сырых жывёлавых прадуктаў. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

(М. П.) Згодна: (Подпіс)..................

(Падпісваецца ясна паказаным на адвароце вэт. урачом з прыкладам прысвоенай яму пячаткі).

---

ДАДАТАК 4.

Форма № 4

Вэтэрынарна-Санітарны Нагляд СССР.

Форма № 4. (Пасьведчаньне, выдаваемае ўрадавым вэт. урачом пры станцыі (прыстан) пагрузкі на ідучыя за граніцу мясныя прадукты).

Месца выдачы: (станцыя чыгункі, прыстань) ..................

.................. месца знахаджэньня станцыі ці прыстані ..................

.................. раён .................. акруга ..................

Рэспубліка ..................

## ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ № ..........

.................. году .................. месяца .................. дня. Вы дадзена грам. (імя, імя па бацьку, прозьвішча, установа, фірма), .................. у тым, што мною гэтага дня агледжана партыя мясных прадуктаў (назва па родах жывёлы і па роду апрацоўкі--ялавічына і інш., сьвежая, марожаная і інш.) ..................

..................

у колькасьці (па роду пакаваньня) ..................

вагой у .................. кілёграмаў ..................

паказаныя мясныя прадукты, як гэта відаць з пералічаных на адвароце гэтага пасьведчаньняў, паходзяць з бясьпечн. .................. адносна эпізоотый месц .................., атрыманы ад жывёлы зьявіўшайся па вэт.-ўрачэбнаму агляду да забою здаровай і прызнаны вэт. наглядам разьніц годнымі да ўжываньня ў яду людзям.

Пры аглядзе прадукты зьявіліся запакаванымі з належнай чыстатою і стараннасьцю, ніякіх адзнакаў псоты ў іх ня знойдзена. Памянёныя мясныя прадукты з наложанымі на тушы, цюкі і інш.) .................. плёмбамі з паказаньнем вэт. санітарнага пункту накіроўваюцца да выходнай станцыі (прыстані) ў абчышчаных вагонах за № № .................. пры накладных (транспартных дакумэнтах) за № № .................. з мэтаю адпраўкі ў .................. (назва чужаземнай дзяржавы).

(М. П.) (Подпіс) ..................

(Падпісваецца ясна ўрадавым вэт. урачом, які рабіў агляд прадуктаў перад пагрузкай, з дакладным паказаньнем займаемай ім пасады).

НА АДВАРОЦЕ ЯГО:

Пералік пасьведчаньняў, выдадзеных вэт. наглядам разьніц.

| Калі выдадзены пасьведчаньні і нумары іх. | Кім выдадзены і каму (імя, імя па бацьку і прозьвішча, фірма, установа). | Род і гатунак мяса. | Найменьне месц і лік упаковак. | Месца знаходжэньня разьніц. |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

(М. П.) Згодна: (Подпіс) ...........

(Падпісваецца ясна паказаным на адвароце гэтага вэт. урачом).

ДАДАТАК 5.

Форма № 5.

Вэтэрынарна-Санітарны Нагляд СССР.

Форма № 5. (Пасьведчаньне, выдаваемае вэтэрынарным наглядам разьніц на адпраўляемыя за граніцу мяса і іншыя прадукты забою).

Месца выдачы: (найменьне разьніц) ...........

месца знаходжэньня іх ...........

(горад, мястэчка, селішча і інш.) ...........

раён ........... акруга ........... Рэспубліка ...........

## ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ № ...........

........... году ........... месяца ........... дня.

Выдадзена гр. (імя, імя па бацьку, прозьвішча, фірма, установа) ........... у тым, што адпраўляемыя ў ...........

(найменьне чужаземнай дзяржавы) ...........

(найменьне мясных і іншых прадуктаў забою) ...........

у колькасьці ........... (туш, пакоў і інш.) вагой у ........... кілёграмаў, як відаць з пералічаных на адвароце гэтага пасьведчаньняў, паходзяць ад жывёлы, прыбыўшай у разьніцу з бясьпечн ........... адносна эпізоотый месц ...........

пры аглядзе перад забоем прызнанае здароваю. Пры аглядзе гэтага дня прадуктаў забою памянёнай жывёлы, усе яны прызнаны падлягаючымі вольнаму звароту.

(М. П.) (Подпіс)..............................

(Падпісваецца ясна вэтэрынарным урачом упаўнаважаным Вэтэрынарным Кіраўніцтвам—загадчыкам вэтэрынарна-санітарнага нагляду ў разьніцах).

НА АДВАРОЦЕ ЯГО

Пералік пасьведчаньняў, выдадзеных сельскай уладай ці міліцыяй.

| Калі выдадзены пасьведчаньні і нумары іх. | Кім выдадзены і каму [імя, імя па бацьку, прозьвішча, установа, і г. д.] | Род жывёлы | Колькасьць галоў | Месца знаходжэньня разьніц |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

(М. П.). Згодна: (Подпіс) ..............................

(Падпісваецца ясна паказаным на адвароце гэтага вэтэрынарным урачом).

ДАДАТАК 6.

Форма № 6.

С. С. С. Р.

Вэтэрынар. Кіраўніцтва НКЗ БССР .............................. кантрольны прыгранічны вэтэрынарна-санітарны пункт.

Вэтэрынарны сэртыфікат №..............

на адпраўку за граніцу жывёлы.

1) 192 ..... году .............................. месяца .............................. дня.

2) Месца выдачы сэртыфікату № ..............................

3) Адправіцель .............................. [прозьвішча, імя, імя па бацьку, установа]

4) Адрас адправіцеля ..............................

5) Род жывёлы ..............................

6) Колькасьць галоў ..............................

7) Клеймы (маркі) ..............................

8) Вага ..............................

9) Станцыя адпраўленьня..............................

10) Шляхі перавозу ..........

11) Краіна і пункт прызначэньня ..........

12) №№ вагонаў (альбо назва параходу) ..........

13) №№ накладных (транспартных дакумэнтаў) ..........

Ніжэй падпісаны вэтэрынарны ўрач сьведчыць, што паказаная вышэй жывёла паходзіць з мясцовасьцяй бясьпечных па заразьлівых хваробах жывёлы і знойдзена па вэтэрынарна-санітарнаму агляду, зробленаму беспасрэдна перад пагрузкай яе, ня хворай заразьлівымі хваробамі.

Урадавы вэтэрынарна-санітарны ўрач
прыгранічнага пункту (Подпіс).

(М. П.)

---

ДАДАТАК 7.

Форма № 7.

С. С. С. Р.

Вэтэрынар. Кіраўніцтва НКЗ БССР
.......... кантрольны
прыгранічны вэтэрынарна-санітарны пункт.

Вэтэрынарны сэртыфікат № ..........
на адпраўку за граніцу мяса.

1) 192..... году .......... месяца .......... дня.

2) Месца выдачы сэртыфікату ..........

3) Адправіцель ..........
(імя, імя па бацьку, прозьвішча, фірма, установа)

4) Адрас адправіцеля ..........

5) Назва прадукту (па родах жывёлы) ..........

6) Гатунак мяса (марожанае, копчанае і інш.) ..........

7) Род пакаваньня ..........

8) Колькасьць ..........

9) Вага ..........

10) Клеймы (маркі, плёмбы) ..........

11) Станцыя адпраўленьня ..........

12) Шляхі перавозу ..........

13) Краіна і пункт прызначэньня ..........

14) №№ вагонаў (альбо назва параходу) ..........

15) №№ накладных (транспартных дакумэнтаў) ..........

Ніжэй падпісаны вэтэрынарна-санітарны ўрач гэтым сьведчыць, што паказанае вышэй мяса паходзіць з мясцовасьцяй бясьпечных па заразьлівых хваробах жывёлы, атрымана ад жывёлы, зьявіўшайся па вэтэрынарна-санітарнаму агляду да забою здаровай і забітай на зна-

ходзячыхся пад сталым вэтэрынарным наглядам разьніцах. Мяса да пакаваньня было прызнана годным да ўжываньня ў яду і запакавана з належнай чыстатой і стараннасьцю, з пільнаваньнем санітарных правіл, ахоўваючых народнае здароўе.

Урадавы вэтэрынарна-санітарны ўрач
прыгранічнага пункту (подпіс).

(М. П.)

---

С. С. С. Р.

Вэткіраўніцтва НКЗ БССР

.................. кантрольны прыгран. вэтэрынарна-санітарны пункт.

ДАДАТАК 8.
Форма № 8.

Вэтэрынарны Сэртыфікат № ..........

на адпраўку за граніцу прадуктаў жывёлагадоўлі.

1) 192 году __________ месяца .................. дня
2) Месца выдачы сэртыфікату __________
3) Адправіцель ..................
(імя, імя па бацьку, прозьвішча, установа, фірма)
4) Адрас адправіцеля ..................
5) Назва прадукту ..................
6) Гатунак яго (па характару апрацоўкі) __________
7) Род пакаваньня ..................
8) Колькасьць ..................
9) Вага .................. __________
10) Клеймы (маркі, плёмбы) ..................
11) Станцыя адпраўленьня __________
12) Шляхі перавозу ..................
13) Краіна і пункт прызначэньня __________
14) №№ вагонаў (альбо назва параходу) __________
15) №№ накладных (транспартных дакумэнтаў) ..........

Ніжэй падпісаны вэтэрынарны ўрач гэтым сьведчыць, што пералічаныя вышэй прадукты паходзяць з мясцовасьцяй бясьпечных па заразьлівых хваробах. Загатоўка і пакаваньне прадуктаў зроблена з належнай чыстатой і стараннасьцю, з захаваньнем санітарных правіл, ахоўваючых народнае здароўе.

Урадавы вэтэрынарна-санітарны ўрач
прыгранічнага пункту (подпіс).

(М. П.)

## 15. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ УДЗЕЛЕ ЖЫХАРСТВА Ў ДАПАМОЗЕ ПАБУДОВЫ ПЛЯНАВЫХ ШКОЛЬНЫХ БУДЫНКАЎ, ЗГОДНА ПЛЯНУ ЎВЯДЗЕНЬНЯ ЎСЕАГУЛЬНАГА НАВУЧАНЬНЯ.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы.*

Паводле пастановы Дзяржаўнай Плянавай Камісіі, пры разгляданьні пляну ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня на пабудову аднаго школьнага будынку для чатырохгадовай двохкамплектнай школы, апроч лесаматар'ялу, адпускаецца 6000 руб. пры ўмове, што жыхарства бясплатна прыме на сябе высечку, падвозку на месца пабудовы школы лесаматар'ялу і ачыстку яго ад кары.

Паводле вышэйазначанага і ў мэтах найбольшай па магчымасьці эканоміі сродкаў, вызначаных на плянавае школьнае будаўніцтва, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе наступнае:

1. Павесьці шырокую агітацыю, як праз культаддзелы, гэтак і праз акруговую інспэктуру аб прыцягненьні грамадзкай ініцыятывы да дапамогі ў школьным будаўніцтве.

2. Жыхарства даннага школьнага раёну, дзе будуецца школа павінна, як мінімум, узяць на сябе абавязак па высечцы і дастаўцы лесаматар'ялу з лесу на месца пабудовы школы, а таксама і ачыстку яго ад кары.

Апроч гэтага вельмі пажадана, каб яно прыняло яшчэ больш ўдзел ў дапамозе, як напрыклад: падвозка каменьняў, цэглы, гліны, пяску, а таксама дапамагала некваліфікаванай тэхнічнай рабочай сілай пры пабудове школы.

3. Школы ў першую чаргу будаваць у тых школьных раёнах, дзе жыхарства праявіць найбольшую ініцыятыву ў дапамозе ў пабудове школы і ўстрымацца ад пабудовы школ у тых школьных раёнах, дзе жыхарства не захоча прыняць гэтага ўдзелу, згодна першай часткі пункту другога гэтага абежніку.

4. Абавязкова перад вызначэньнем пунктаў для пабудовы школ жыхарства павінна на агульным сходзе зрабіць прыгавар згодна далучнага да гэтага ўзору, пры чым ў гэтым прыгавары павінна быць падрабязна пералічана ўся тая праца, якую жыхарства бярэ на сябе зрабіць бясплатна.

5. Копіі прыгавару павінны быць адзін экзэмпляр у ўпаўнаважных ад жыхарства, адзін у Раённым Выканаўчым Камітэце і адзін у Акруговым Аддзеле Народнае Асьветы.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Загадчык Галоўнай Управы
Сацыяльнага Выхаваньня БССР **Мазур.**

Загадчык Агульнага Аддзелу **Ю. Савіч.**

25 лістапада 1926 г.

---

Дадатак.

ПРЫГАВАР.

Мы грамадзяне ______________ (вёскі) ..............
______________ (сельсавету, раёну і акругі) у ліку
..............______ асоб (з агульнага ліку ..............

маючых права прымаць удзел у сходзе з пастаноўчымі галасамі)
.................... дзень, месяц і год ........................ сабраліся на агульны сход для абгаварэньня пытаньня аб пабудове двухкамплектнай чатырохгадовай школы ў ..............................
(назва вёскі) .............................. ў якой будуць вучыцца нашы дзеці, прычым пастанавілі: пры пабудаваньні ў названай вёсцы плянавай школы мы абавязуемся данамагчы ў наступным бясплатна ..............................
(пералічыць усю тую працу, якую жыхарства бярэ на сябе) ..............................

..............................

Прынятыя на сябе азначаныя вышэй абавязкі мы выканаем своечасова і поўнасьцю бяз ніякага ўхіленьня, і за невыкананьне іх мы нясём адказнасьць.

*Подпісы*

---

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы і Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### АБ УВЯЗЦЫ ПРАЦЫ ШКОЛ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ З ПРАЦАЮ ЗЯМЕЛЬНЫХ ОРГАНАЎ У ГАЛІНЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

*Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы і Акруговым Зямельным Аддзелам.*

У мэтах падрыхтоўкі культурных земляробаў і актыўных грамадзкіх працаўнікоў вёскі, у кожнай акрузе арганізаваны школы сялянскай моладзі.

Практычнае навучаньне ў школе сялянскай моладзі складаецца з працы:

1) па арганізацыі паказальных вопытаў і палепшаньняў у сялянскіх гаспадарках;

2) з грамадзка-аграномічнае працы (ачыстка і сартыроўка насеньня, барацьба са шкоднымі травамі, праца на пракатных пунктах і г. д.);

3) з практычных заняткаў на гаспадарцы школы.

Каб паставіць грамадзка-культурную і вытворчую працу школы сялянскай моладзі на правільны шлях і падняць яе на належную вышыню, неабходна паказаную працу весьці ў цеснай сувязі з зямельнымі органамі.

Паводле вышэйазначанага Народны Камісарыят Асьветы і Народны Камісарыят Земляробства прапануюць наступнае:

1) Плян працы школ сялянскай моладзі асабліва ў грамадзкай частцы павінен цалкам увязвацца з плянам працы аграномічнага вучастку шляхам узгадненьня пляну на нарадзе сельска-гаспадарчых камісій пры сельскіх саветах.

2) На раённыя сельска-гаспадарчыя нарады і акруговыя нарады аграномічнага пэрсаналю запрашаць загадчыкаў школ сялянскай

моладзі і школьных аграномаў і выслухоўваць на іх справаздачы школ сялянскай моладзі.

3) Запрашаць вучастковага агранома на школьную раду, калі будуць абгаварвацца сельска-гаспадарчыя пытаньні.

4) Ускласьці на абавязак ШСМ правядзеньне ў плянавым парадку паказальных мерапрыемстваў, вопытаў, абсьледаваньняў, а таксама арганізацыю пры школе сельска-гаспадарчых выставак, працу па сартаваньню насеньня, мэтэаралёгічных пунктаў і інш.

5) У мэтах больш шырокага азнаямленьня школ сялянскай моладзі з практычнаю працаю ўзорных савецкіх гаспадарак, неабходна даць магчымасьць школам сялянскай моладзі знаёміцца з працаю ў племянных і іншых узорных савецкіх гаспадарках і правядзеньня ў іх практычных занняткаў.

6) Для азнаямленьня з умовамі і характарам працы ў школах сялянскай моладзі Акруговыя Зямельныя Аддзелы могуць правесьці абследваньне ў гэтых школах.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Валодзька.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКА **Ю. Савіч.**

3 сьнежня 1926 г.
№ 7.

---

## 17 Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ УЖЫВАНЬНІ АБЕЖНІКА НКП БССР ЗА 20 IX 1926 г. № 54 АБ ПАРАДКУ НАКІРОЎВАНЬНЯ ПРАЦОЎНЫХ КАНФЛІКТАЎ.

Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР за 20/IX—1926 г. № 54 павінен дапасоўвацца толькі да спрэчак, якія разглядаюцца ў Міравых Камэрах і Пасрэдніцкіх Судох пры Акруговых Аддзелах ці Камэрах Інспэкцыі Працы. Спрэчкі, якія паўстаюць пры ўжываньні дапаможнай наемнай працы ў сялянскіх гаспадарках, павінны разглядацца на агульных падставах, паводле інструкцыі СНК БССР за 26/X—1925 г. (З. З. 1926 г. № 5, арт. 19).

Народны Камісар Працы БССР **Ерафееў.**

Нам. Заг. АТЭ ЦРПСБ **Каган.**

Кіраўнік Спраў НКП **Акулаў.**

30 лістапада 1926 г.
№ 15.

Зацьверджана Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР 4 кастрычніка 1926 г.

## 18. Інструкцыя зборшчыкам страхавых плацяжоў па абавязковаму акладному страхаваньню ў сельскіх мясцовасьцях БССР.

### I. Парадак і ўмовы запрашэньня зборшчыкаў.

§ 1. Для збору з насельніцтва акладных страхавых плацяжоў агэнтамі Дзяржаўнага Страхаваньня, па згодзе з належнымі сельскімі саветамі, а таксама з Раённымі Выканаўчымі Камітэтамі, запрашаюцца зборшчыкі.

*Увага.* Зборшчыкамі могуць быць: члены і сэкратары сельскіх саветаў, мясцовыя савецкія і грамадзкія працаўнікі, а таксама карыстаючыеся давер'ем насельніцтва прыватныя асобы.

§ 2. Да абавязкаў зборшчыкаў належыць: прыём ад страхавальнікаў плацяжоў па абавязковаму акладному страхаваньню і здача іх у мясцовае агэнцтва Дзяржаўнага Страхаваньня, а таксама паведамленьне агэнцтву аб прыкмечаных пропусках у адносінах колькасьці застрахованых будынкаў, сельска-гаспадарчай жывёлы і пасеваў.

§ 3. За працу па збору страхавых плацяжоў зборшчыкі атрымліваюць узнагароду, якая вылічаецца ў пэўным процанце ад сабранай імі і здадзенай у агэнцтва сумы страхавых плацяжоў.

### II. Выдача квітоў.

§ 4. Пры кожным атрыманьні акладных страхавых плацяжоў зборшчык выдае плацельшчыку на рукі страхавы квіт з атрыманай ад агэнта квітавое кніжкі. Атрыманьне грошай бяз квітоў, ці выдача квітоў з кніжак сельсавету ці другое ўстановы, або выдача прыватных расьпісак строга забараняецца.

Квіты выпісваюцца атрамэнтам, ці атрамэнтным (хімічным) алоўкам.

### III. Залік нядоімкі.

§ 5. Калі за страхавальнікам, разам з акладам, лічыцца нядоімка акладных страхавых плацяжоў, і страхавальнік плаціць адразу ня ўсю суму, то атрыманыя грошы зборшчык павінен залічыць першнаперш на папаўненьне нядоімкі з пеняй, і толькі лішак, які застанецца пасьля пагашэньня нядоімкі, залічыць у лік акладу.

*Увага.* Зборшчыкі, якія не зьяўляюцца членамі сельскіх саветаў, прымаюць ад страхавальнікаў нядоімку страхавых пляцяжоў, паводле прад'яўленых плацельшчыкамі страхавых паведамленьняў. Перад здачай грошай у агэнцтва зборшчык павінен зрабіць пайменную выпіску з карэнчыкаў квітоў атрыманай ім нядоімкі і перадаць яе ў сельскі савет для адзнакі ў нядоімачных сьпісах.

### IV. Адзнакі ў імянных сьпісах.

§ 6. Атрыманыя ад страхавальнікаў плацяжы зборшчык павінен адзначыць у імянным сьпісу плацельшчыкаў, з паказаньнем часу выплаты грошай, нумару квіту і выплачанай сумы.

У канцы кожнага месяца зборшчык павінен прад'явіць імянны сьпіс агэнцтву для параўнаньня з імянным сьпісам, знаходзячымся у агэнцтве і для адзнакі страхавых плацяжоў, якія здадзены непасрэдна ў кантору агэнцтва.

## V. Здача грошай у агэнцтва.

§ 7. Выплачаныя насельніцтвам страхавыя плацяжы зборшчык павінен здаваць толькі свайму раённаму агэнту, ці яго памочніку, у вызначаныя дні, але ня менш аднаго разу ў два тыдні.

§ 8. Грошы ў агэнцтва зборшчык здае пад установлены квіт. Забараняецца здаваць грошы без атрыманьня квіту, ці пад прыватныя расьпіскі.

Квіты, атрыманыя ад агэнта, зборшчык павінен захоўваць і прад'яўляць для праверкі па затрабаваньню страхавых інспэктароў і другіх асоб, упаўнаважаных рабіць рэвізію.

## VI. Здача карэнчыкаў квітовых кніжак.

§ 9. Адначасова з узносам грошай, зборшчык павінен здаць у агэнцтва карэнчыкі поўнасьцю скарыстанных квітовых кніжак і прад'явіць астатнюю пачатую, але не закончаную квітовую кніжку.

## VII. Вызваленьне зборшчыкаў ад збору плацяжоў.

§ 10. Па сканчэньні вызначанага для збору акладу тэрміну або ў выніку вызваленьня ад прыёму плацяжоў у парыяд збору зборшчык павінен здаць у агэнцтва ў прызначаны апошнім тэрмін пасьведчаньне на права прыёму плацяжоў, квітовыя кніжкі і імянныя сьпісы.

## VIII. Адказнасьць зборшчыка.

§ 11. За падлогі пры выдачы квітоў, несваечасовую здачу атрыманных плацяжоў і за растрату страхавых сум, зборшчык нясе адказнасьць па арт. арт. 107, 113 і 116 Крымінальнага Кодэксу.

Старшыня Кіраўніцтва Дзяржаўнага
Страхаваньня БССР **В. Стракоўскі.**

Нам. Кіраўніка Арганізацыйнага
Аддзелу **К. Рабцэвіч.**

## 19. Ці патрэбна рэарганізацыя Часьцей па культурных справах Раённых Выканаўчых Камітэтаў.

*(У парадку абгаварэньня).*

Некалькі дзён назад Шклоўскі Раённы Выканаўчы Камітэт атрымаў праэкт пастановы Савету Народных Камісараў БССР і паясьняльную запіску да яго ад Народнага Камісара Асьветы па пытаньні рэарганізацыі частак, ведаючых культурнымі справамі ў раённых выканаўчых камітэтах, у Раённыя Інспэктуры па народнай асьвеце.

Гэта пытаньне было перададзена на папярэдняе абмеркаваньне самое часьці па культурных справах, а потым пастаўлена на вырашэньне Прэзыдыуму Раённага Выканаўчага Камітэту (17-18 лістапада).

Трэба адзначыць, што да гэтага пытаньня аднесьліся сур'ёзна ня толькі члены Прэзыдыуму, але, наогул, і таварышы, якія прысутнічалі на гэтым паседжаньні. Яно выклікала шмат спрэчак, поглядаў і прапаноў. Было пастаноўлена, не згадзіўшыся з прапановаю Камісара Асьветы, што рэарганізацыю ў поўным значэньні гэтага слова праводзіць ня трэба, а толькі ўстанавіць у дадатак да часьці па культурных справах аднаго Інспэктара на два раёны за кошт скасаваньня інспэктарскіх пасад пры акруговых аддзелах народнае асьветы. Такая пастанова была вынесена на падставе таго, што члены раённага выканаўчага камітэту вельмі абцяжараны сваімі асноўнымі абавязнасьцямі і пры рэарганізацыі культчасьцей абавязнасьці загадчыкаў іх прыдзецца пераклaсьці на другіх работнікаў, якія напэўна пры абцяжаранасьці сваей непасрэднай работай, як паказана вышэй, з гэтаю новаю работаю ня справяцца, і яна будзе кульгаць на ўсе бакі.

Я лічу, што з такой пастановай таксама наўрад ці можна згадзіцца, бо толку ад такога міжраённага інспэктара будзе мала: яго будуць цягаць то адзін, то другі раёны, а таксама і пападаць яму будзе ад абодвых раёнаў. Гэты інспэктар будзе знаходзіцца між двох агнёў і яму прыдзецца вярцецца, як белцы ў калясе. Але і так працаваць далей таксама нельга і нешта трэба зрабіць.

Ня так даўно мне прышлося прачытаць ў газэце „Савецкая Беларусь“ прамову Старшыні Савету Народных Камісараў БССР т. Адамовіча па пытаньні аб нашым бюджэце. У сваей прамове т. Адамовіч, між іншым, закрануў і пытаньне аб мэтазгоднасьці існаваньня некаторых акруговых цэнтраў у БССР. Але ён гаворыць, што гэту работу прыдзецца зрабіць у бліжэйшыя тры гады, супроць чаго пярэчыць ня прыходзіцца, бо зразумела, што гэтае пытаньне нельга вырашыць не абмеркаваўшы, а абмеркаваньне патрабуе некаторай прапрацоўкі. Я думаю, што ўжо і ў гэтым годзе ўсё ж можна будзе сьмела і бяз болю распачаць ліквідацыю хоць-бы некаторых аддзелаў акруговых выканаўчых камітэтаў, як напрыклад: аддзелаў аховы здароўя, а ў першую чаргу—акруговых аддзелаў народнае асьветы, бо і с т о т н а е рэальнасьці ад даных аддзелаў для раёнаў мала, а ў большасьці--іх кіраваньне ажыцьцяўляецца праз рас-

сылку копій цыркуляраў сваіх народных камісарыятаў і выпадкова раз у год выедзе інструктар аддзелу народнае асьветы на раён. Ён павернецца ў 3—4 школах і зноў едзе ў акругу. Утрыманьне-ж грамоздкіх штатаў дорага абходзіцца для дзяржавы.

Такім чынам мы атрымаем вядомую суму свабоднага бюджэту, за кошт якога можна будзе даць па аднаму інспэктару на кожны раён. Апрача таго дзяржава будзе мець некалькі дзесяткаў тысяча рублёў эканоміі. Гэта з аднаго боку. А з другога—мы будзем мець магчымасьць паставіць справу народнае асьветы ў раёнах лепш, як гэта ёсьць цяпер. Не сакрэт таксама і тое, што загадчык культурнымі справамі ў раёне абцяжаран звыша го фізычных магчымасьцяй, з прычыны чаго ён ня можа зьвярнуць належнае ўвагі на пэдагагічную і навуковую справу школ. З усяго сказанага вышэй вынікае пытаньне аб неабходнасьці дабаўленьня ў склад часьці па культурных справах аднаго інспэктара па народнай асьвеце.

Мы ня можам таксама сказаць, што дзецям ў школах даецца іменна тое, што прапануе Савецкая ўлада, а таксама ня ведаем, ці адпавядаюць свайму прызначэньню настаўнікі ў сэнсе іх кваліфікацыі і падгатоўкі для школьнае работы.

Лічу, што гэта пытаньне трэба вынесьці на шырокае абмеркаваньне на старонках друку.

**С. Лодысеў.**

23 лістапада 1926 г.
г. Шклоў, РВК.

---

## 20. Ці можа земляроб карыстацца сядзібнымі вучасткамі у дзьвёх зямельных грамадах.

Грамадзянкі в. Пагарэлае Блізьняцовы зьвярнуліся ў Раённую Зямельную Камісію з просьбай аб пашырэньні іх сядзібы і адданьні ў іх карыстаньне сядзібнага вучастку плошчаю каля 1 дз. гр-на Кедзіча, які жыве ў 7 вярстах ад в. Пагарэлае ў в. Лочын, дзе мае на 4 працоўных адзінкі 4½ дз. зямлі з сядзібным вучасткам, на вучастку ў в. Пагарэлае знаходзіцца хата і іншыя будынкі, якія Кедзіч здае ў арэнду, але незабудаваную зямлю гэтагага вучастку ўгнойвае і апрацоўвае ўласнымі сіламі свае сям'і.

Раённая Зямельная Камісія залічыла спрэчны сядзібны вучастак у запасны фонд, замацавала яго за гр-мі Блізьняцовымі і прапанавала гр. Кедзічу зьнесьці будынкі з вучастку ў пайтарагадовы тэрмін.

Акруговая Зямельная Камісія зьмяніла гэта рашэньне, справу ў спрэчным парадку спыніла, залічыла сядзібны вучастак Кедзіча ў в. Пагарэлае ў запфонд і справу накіравала ў зямельную часьць Раённага Выканаўчага Камітэту дзеля разьмеркаваньня гэтага вучастку шляхам земляўпарадкаваньня, паводле вымаганьняў арт. 15 Зямельнага Кодэксу.

Асобная Калегія Вышэйшага Кантролю, разгледзеўшы 2 кастрычніка 1926 г. справу *) з прычыны скаргі гр. Кедзіча, і заўважыўшы, што ў справе няма тых акалічнасьцяй, якія па закону зьяўляюцца падставай для пазбаўленьня гр. Кедзіча права карыстацца зямлёй у в. Пагарэлае, што справа ўзьнікла па іску Блізьняцовых, якія ніколі спрэчнай зямлёй не карысталіся і таму ніякага права на

*) Справа Асобн. Калегіі Вышэйшага Кантролю 1926 г. № 845.

іск сядзібнай зямлі гр. Кедзіча ў в. Пагарэлае ня маюць, адмяніла рашэньні З. К. і справу спыніла.

Разам з гэтым Асобная Калегія Вышэйшага Кантролю па пытаньню карыстаньня двумя сядзібнымі вучасткамі ў дзьвёх зямельных грамадах, растлумачыла наступнае:

а) пры карыстаньні сядзібнымі вучасткамі не па належнаму прызначэньню, калі напрыклад, ён скарыстоўваецца як палявы—засяваецца хлебам, альбо як сенажаць, то зямельныя органы, а таксама зямельныя грамады могуць прад'явіць іск у Раённую Зямельную Камісію аб выняцьці тых сядзібных вучасткаў, якія няправільна скарыстоўваюцца, для залічэньня іх у запасны фонд і калі выняцьцем гэтай сядзібы можна зрабіць самастойны сядзібны вучастак, альбо пашырыць сумежныя сядзібы;

б) двор, які надзяляецца сядзібай, павінен узнагарадзіць папярэдняга землякарыстальніка за ўкладзеную ў зямлю працу і, апроч таго, калі апошні ня мае ў сваім карыстаньні зямлі больш максымальнай нормы, прадаставіць роўнакаштоўны вучастак палявой зямлі ў якасьці кампэнсацыі.

**Бялінскі.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія**.






АБВЕСТКА

# АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА
## на 1927 год

НА АФІЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ

# БЮЛЕТЭНЬ
# САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР.

Праграма БЮЛЕТЭНЮ застаецца тая-ж, як і ў 1926 годзе, г. зн.: 1) **у афіцыйнай частцы** будуць зьмяшчацца ўсе афіцыйныя матар'ялы—абежнікі, інструкцыі, пастановы, палажэньні і інш. Народных Камісарыятаў і Цэнтральных Савецкіх Установаў БССР, маючыя публічна-праўны характар, і 2) **у неафіцыйнай частцы**—артыкулы з тлумачэньнямі матар'ялаў афіцыйнай часткі БЮЛЕТЭНЮ, калі апошнія будуць мець асаблівае значэньне для мясцовых установаў, а таксама артыкулы, датычныя работы ніжэйшых савецкіх установаў.

БЮЛЕТЭНЬ будзе па прыкладу 1926 году пасылацца **бясплатна** па ўсіх сельскіх саветах, хатах-чытальнях і нардамох, раённых выканаўчых камітэтах і ўсіх установах раённага маштабу, а таксама па акруговых выканаўчых камітэтах і ўстановах акруговага маштабу, Народных Камісарыятах і Цэнтральных Савецкіх Установах БССР.

Для ўстаноў і асоб, якія не ўваходзяць у паказаны вышэй сьпіс, Бюлетэнь будзе высылацца **за плату па папярэдняй падпісцы.**

Бюлетэнь будзе выходзіць па меры паступленьня матар'ялаў, але ня менш аднаго разу ў месяц.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА**

на год **7** руб. **20** коп., на паўгода **3** руб. **60** коп.

**Падпіску і грошы накіроўваць:**

гор. Менск, пляц Волі, 17, СНК. Рэдакцыі Бюлетэню.

*Рэдакцыйная Калегія.*